ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№18
(2524)

1 мая 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

*У ЗАЛЕ ТАВАРЫСТВА ДРУЖБЫ*



**У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі пры ўдзеле таварыства "Беларусь—Расія" працуе выстава "Касмічная садружнасць". У адкрыцці экспазіцыі прыняў удзел старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоль Малафееў.**

**НА ЗДЫМКУ: наведвальнікі знаёмяцца з экспазіцыяй.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

*(Артыкул "Беларусь з космасу" і фатаграфіі работ з выставы змешчаны на 6-й стар.).*

*БЕЛАРУСКІМ ТАТАРАМ — 600 ГОД*

## У НАС ПАСЫНКАЎ НЯМА

***Сёлета спаўняецца 600 год, як на тэрыторыі Беларусі пасяліліся першыя татары. На працягу стагоддзяў яны былі адной з найбольш значных нацыянальных дыяспар і цалкам падзялілі лёс краю і народаў, з якімі жылі побач. Нягледзячы на актыўную асіміляцыю, змяншэнне агульнай колькасці, кампактныя паселішчы татар у некаторых раёнах краіны захаваліся і па сёння. Найбольш іх у Іўі, Смілавічах, Клецку, Мінску, Слоніме, Капылі, Навагрудку...***

### З ЧАСОЎ НАЙДАЎНЕЙШЫХ ПА ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ

Лёс татар на Беларусі вельмі цікавы. Як лічаць яны самі і сведчаць гістарычныя даныя, частка з іх трапіла сюды ў якасці ваеннапалонных, але цэлая група была спецыяльна запрошана князем Вітаўтам у сваю гвардыю, каб ахоўваць межы Вялікага Княства Літоўскага. Трэба сказаць, становішча гэтай катэгорыі было нават прывілеяваным. За верную службу яны атрымлівалі ганаровыя званні, тытулы, зямельныя надзелы... Напрыклад, у 1586 годзе стаў гаспадаром уладанняў у Ашмянскім павеце першы тутэйшы продак цяперашняга муфція Беларусі — старшыні Упраўлення мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь Ісмаіла Александровіча — Насыф Турчынавіч Александровіч. Больш таго, за адметныя заслугі кароль надаў яму тытул князя і зацвердзіў адпаведны герб. Падтрымалі гонар бацькі і сыны Насыфа — Мехмет і Юнус, пра што таксама сведчаць старадаўнія акты: за добрую службу каралю яны таксама атрымалі маёнткі ў Навагрудскім ваяводстве.

Дарэчы, Ісмаіл Мустафавіч правёў сапраўднае навуковае даследаванне і склаў досыць падрабязнае генеалагічнае дрэва старажытнага беларуска-татарскага роду Александровічаў. Праца атрымалася цікавай не толькі ў прыватным парадку для членаў згаданага сямейнага клана. Яе можна разглядаць і як своеасаблівы сацыяльна-гістарычны жыццяпіс шэрагу выхадцаў татарскай меншасці на Беларусі на працягу цэлых стагоддзяў. Нават павярхоўнае знаёмства са шматлікімі адгалінаваннямі раскідзістай кроны дае ўяўленне і пра непахісную адметнасць, характэрную менавіта для прадстаўнікоў данай нацыянальнасці, і адначасна пра тое, як цесна ўпляліся іх лёсы ў лёс зямлі, на якой выпала жыць.

Ісмаіл Мустафавіч, як і іншыя яго супляменнікі, лічыць сваёй прарадзімай Крым. Але з'явіліся татары на Беларусі без жанчын, а таму пабралі ў жонкі мясцовых дзяўчат, вось і стаяць на "галінках дрэва" разам Зямейра і Алена, Айша і Марыяна, Фаціма і Ева... Нават зафіксаваны выпадак, калі адзін з нашчадкаў Насыфа Турчынавіча прыняў іншую веру — каталіцтва, дарэчы, і імя яго было — Іван. І хаця на працягу ўсяго перыяду пражывання татар на Беларусі

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ДЫРЭКТАР КУПАЛАЎСКАГА ІВАН ВАШКЕВІЧ

## СА СЦЭНАЙ КРЭЎНЫ ДАГАВОР

Даволі бесцырымонна пытаюся, ці думаў-гадаў калі ён, Іван Вашкевіч, што будзе сядзець у гэтым дырэктарскім крэсле на другім паверсе слыннага тэатральнага будынка, за вокнамі якога па-вясноваму асляпляльна гарыць сонечны дзень... Тады, напрыклад, калі піянерам выступаў перад прыціхлай дзятвой у чырвоных гальштуках, натхнёна і ўсхвалявана чытаючы "Партызаны, партызаны, беларускія сыны!.." І голас яго, працяты хлапечым баском, узлятаў над крымскім лагерам "Артэк", лунаў пад зорным вечаровым небам і рэхам каціўся да хваль Чорнага мора каля падножжа Аюдага...

— Смешна й гаварыць! Не. Канешне, не думаў, — бурчыць ён, а я не супакойваюся і па-журналісцку настырна распытваю, нагадваючы некаторыя факты ягонага жыцця.

Вось з актыўных і заўзятых аматараў школьнага драмгуртка ён пераходзіць у асяроддзе студэнтаў Беларускага тэатральнага, падпадае пад чары інстытуцкіх педагогаў — Кастуся Саннікава, Дзмітрыя Арлова, Барыса Вішкарова, наперадзе жывая мара — тэатр. Дапытлівы і начытаны, разважлівы і здатны павесці за сабой гурт равеснікаў, закамандаваць, знайсці выйсце з цяжкага становішча — няўжо не прадчуваў, што наканавана яму з цягам часу ўзяць у свае рукі стырно на капітанскім мосціку праслаўленага тэатра?

Пасля інстытута Іван Вашкевіч стаў акцёрам Коласаўскага тэатра ў Віцебску.

— У тваёй акцёрскай душы бушуе азарт, ты адчуваеш, што здольны раскрываць на сцэне маштабныя характары, якія ўвасабляюць ва ўзбуйненай мастацкай форме спрадвечныя заганы і вартасці... прыхмі і дакоры сумлення... рыцарскія парыванні і агіднае рабалепства... А табе даручаюцца другарадныя ролі, старонкі якіх няма чаго брашураваць, эпізоды або ў лепшым выпадку ўводы ды замены хворага або стомленага выканаўцы. Ці не спараджала гэта помслівага жадання ўзнесціся па прыступках на адміністрацыйную вяршыню — галоўнага, кіраўніка, дырэктара, каб?..

**НА ЗДЫМКУ: Іван ВАШКЕВІЧ, дырэктар Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**



## ВАЙНА. РЭВАЛЮЦЫЯ. МОВА.

### ГРАМАДСКІ СТАТУС БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ГАДЫ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ (1914—1918)

Першая сусветная вайна суправаджалася актывізацыяй нацыянальна-вызваленчых рухаў і ініцыіраваных імі дзяржаваўтваральных працэсаў у многіх народаў, у тым ліку ў беларусаў. Гэта актуалізавала праблему грамадскага статуса роднай мовы як аднаго з найважнейшых чыннікаў нацыянальна-дзяржаўнага самасцвярджэння народа. Праблема ўскладнялася тым, што ў ходзе ваенных дзеянняў была разбурана цэласнасць беларускай этнічнай тэрыторыі, асобныя яе кавалкі ў розныя перыяды вайны аказваліся пад юрысдыкцыяй розных дзяржаўна-адміністрацыйных суб'ектаў. Аб'ём сацыяльных функцый беларускай мовы ў кожнай з гэтых частак вызначаўся ўзаемадзеяннем двух асноўных дэтэрмінантаў: палітыка-прававым курсам той або іншай улады ў моўным пытанні і грамадзянскай актыўнасцю ды выверанасцю паводзін свядомых носьбітаў і энтузіястаў роднага слова.

На тэрыторыі, якая ў пачатковы перыяд вайны заставалася пад панаваннем расійскага царызму (да восені 1915 года — уся Беларусь, да лютага 1917 года — яе цэнтральная і ўсходняя

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*САЮЗ БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ*

### НАСПЕЛА ПАРА

Адбылося чарговае пасяджэнне грамадскага камітэта "Беларусь — Расія". Тут сабраліся прадстаўнікі заканадаўчай галіны ўлады, дзеячы культуры, мастацтва, кіраўнікі буйных прадпрыемстваў краіны, навукоўцы. Відавочна, у стваральнікаў камітэта (а складаецца ён з двух бакоў — беларускага і расійскага) на мэце было жаданне забяспечыць інтэлектуальную падтрымку ў абмеркаванні праекта, а пасля і прыняцці Статута Саюза Беларусі і Расіі. Будучы перакананымі ў тым, што нашым суседнім краінам не жыць адна без адной, удзельнікі пасяджэння ўсё ж абмяркоўвалі, выказвалі свае думкі, крытыкавалі апанентаў, а таксама расійскія сродкі масавай інфармацыі.

На пасяджэнні выступіў памочнік Прэзідэнта краіны Сяргей Посахаў. Прааналізаваўшы дзейнасць сродкаў масавай інфармацыі па абмеркаванню статута, па асвятленню інтэграцыйных працэсаў, С. Посахаў заўважыў, што час развіцця ва ўлонні маці прайшоў, наспела пара вырашаць пытанне па сутнасці. Супрацьстаянне ў Расіі дасягнула — і гэта відавочна — такога стану, што сітуацыя можа завяршыцца роспускам Дзяржаўнай думы. І пасля гэтага ўжо невядома, як пройдзе завяршэнне і абмеркаванне статута і яго зацвярджэнне.

Дзейнасць грамадскага камітэта "Беларусь — Расія" аб'яднала людзей, якія выступаюць за саюз Беларусі і Расіі.

*МЕРКАВАННІ А. ЛУКАШЭНКІ*

### УКРАІНА ЗМЕНІЦЬ ПАЗІЦЫЮ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка не выключае, што ў бліжэйшы час Украіна зменіць сваю палітыку адносна ўдзелу ў працэсе інтэграцыі рэспублік СНД.

У інтэрв'ю Інтэрфаксу 22 красавіка ў Сеуле беларускі лідэр, які знаходзіўся з візітам у Рэспубліцы Карэя, выказаў меркаванне, што "на Украіне наспявае вельмі сур'ёзны паварот" у даным пытанні. "Яны (кіраўніцтва Украіны) не атрымалі нічога, што чакалі ад Захаду, а сітуацыя ў рэспубліцы катастрафічная", — заўважыў А. Лукашэнка.

Ён даў зразумець, што змены ў палітыцы Кіева па пытаннях інтэграцыі з партнёрамі па СНД могуць адбыцца ўжо ў самы бліжэйшы час.

А. Лукашэнка з задавальненнем успрыняў пазітыўны водгук Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына на ініцыятывы беларускага Прэзідэнта аб стварэнні ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе бяз'ядзернай зоны. На думку А. Лукашэнкі, перспектывы развіцця данай ініцыятывы "вельмі вялікія". Прэзідэнт Беларусі пры гэтым адзначыў, што над развіццём яго прапановы "працуюць беларускія і расійскія эксперты".

А. Лукашэнка лічыць, што папярэдняя мадэль развіцця ініцыятывы аб стварэнні бяз'ядзернай зоны мяркуе ўдзел у ёй, у прыватнасці, Казахстана і Украіны.

*БЕЛАРУСЬ БУДУЕ*



Каля 120 тысяч квадратных метраў жылля плануецца здаць у гэтым годзе ў Віцебску. Шчаслівымі навасёламі стануць каля двух тысяч сямей віцяблян.

НА ЗДЫМКУ: новыя жылыя дамы ў мікрараёне Поўдзень-7.

*ПЕРАМОЖЦЫ*



Паспяхова выступіла нацыянальная зборная каманда Рэспублікі Беларусь па хакею на чэмпіянаце свету ў групе "Б", які праходзіў у Польшчы ў гарадах Катавіцэ і Сасновец. Нашы хакеісты сталі пераможцамі гэтага чэмпіянату і выйшлі ў мацнейшую групу "А".

Прэзідэнт А. Лукашэнка павіншаваў беларускіх хакеістаў з перамогай. "Упершыню хакеісты рэспублікі ўвайшлі ў эліту сусветнага хакея, — гаворыцца ў віншаванні Прэзідэнта. — Збылася мара не аднаго пакалення беларускіх паклоннікаў гэтай цудоўнай і мужнай гульні — бачыць сваю любімую каманду сярод каманд такіх хакейных дзяржаў свету, як Фінляндыя, Швецыя, Расія, Канада. У напружанай спартыўнай барацьбе вы праявілі высокі дух калектывізму, сілу волі і асабістую мужнасць. Дзякуй вам за ваш спартыўны подзвіг, дзякуй за перамогу!

Жадаю ўсім вам, дарагія сябры, моцнага здароўя, шчасця і будучых спартыўных перамог, якія праслаўляюць нашу маладую дзяржаву — Рэспубліку Беларусь".

НА ЗДЫМКУ: варатар беларускай каманды Аляксандр ШУМІДУБ.

*БЕНЕФІС*

### ЮБІЛЕЙ СВЯТЛАНЫ АКРУЖНОЙ

У Віцебскім акадэмічным тэатры імя Я. Коласа адбыўся бенефіс народнай артысткі Беларусі Святланы Акружной, прысвечаны юбілею прызнанага майстра сцэны.

Дзесяткі роляў сыграны Святланай Арцёмаўнай на падмостках роднага тэатра, ёю створаны непаўторныя вобразы жанчыны ў кіно, у тэле- і радыёпастаноўках. Яе творчасць спрыяе далучэнню гледачоў да нацыянальнай і сусветнай культуры. Творчы дасягненні С. Акружной адзначаны медалём Францыска Скарыны. На бенефісе Святлана Акружная сыграла ў прэм'ерным спектаклі "Жанна" паводле п'есы Жана Ануя "Жаваранак". Пастаноўка, зробленая рэжысёрам Віталем Баркоўскім, расказвае пра лёс нацыянальнай гераіні Францыі Жанны Д'Арк.

*ВЫРАШАЕ ПРЭЗІДЭНТ*

### ПАМІЛАВАЦЬ ЦІ ПАКАРАЦЬ?

У Беларусі ў 1996 годзе да смяротнага пакарання былі прыгавораны 38 чалавек. Прэзідэнт Беларусі разгледзеў у 1996 годзе 32 хадайніцтвы аб памілаванні прыгавораных судамі да расстрэлу асоб, а таксама 6 спраў у адносінах да асуджаных да смяротнага пакарання, якія не прасілі аб памілаванні.

37 прыгавораных да расстрэлу асуджаны за наўмысныя забойствы пры абцяжарваючых абставінах і адзін — за замах на жыццё супрацоўніка міліцыі. 29 з іх у мінулым судзімыя, адзін прызнаны асабліва небяспечным рэцыдывістам.

"З прычыны асаблівай цяжкасці ўчыненых злачынстваў і іх павышанай небяспекі для грамадства" Аляксандр Лукашэнка адхіліў усе хадайніцтвы.

У 1996 годзе А. Лукашэнка памілаваў 34 чалавекі, асуджаных на розныя тэрміны зняволення. 27 з іх вызвалены ад адбывання пакарання, семярым тэрмін пакарання скарочаны.

*ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ*

### МАЛА АХВОЧЫХ

У адпаведнасці з Законам "Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь" за тры месяцы бягучага года ўладальнікамі кватэр стала 19 400 грамадзян. Гэта амаль на 20 працэнтаў менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года.

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, усяго ў краіне перайшло ва ўласнасць грамадзян 720 тысяч кватэр, або 40 працэнтаў ад агульнай колькасці тых, што падлягаюць прыватызацыі. Прычым найбольш актыўна раздзяржаўліваецца жыллё ў сталіцы і Гомельскай вобласці. А не спяшаюцца з гэтым у Магілёўскай і Гродзенскай абласцях.

*ЗДАРЭННІ*

### ГОЛЫМІ РУКАМІ

Прыкладна ў дзве гадзіны ночы Мікалая Канаплёва, які адпачываў на дачы ў вёсцы Гаравыя Віцебскага раёна, разбудзіў брэх сабакі. Каб даведацца, у чым справа, 52-гадовы падпалкоўнік запасу выйшаў на двор і адразу ж быў збіты з ног. На яго накінулася 60-кілаграмовая ваўчыца. Не маючы пры сабе нічога, Мікалай Канаплёў увязаўся ў сутычку і перамог, задушыўшы звера голымі рукамі.

Цяпер Мікалай Канаплёў знаходзіцца ў абласной інфекцыйнай бальніцы — праходзіць курс лячэння супраць вар'яцтва. Ваўчыца моцна пакусала яму рукі і абадрала грудзі.

У гэтым годзе ў Віцебскай вобласці выяўлена ўжо 26 выпадкаў вар'яцтва ў жывёл. Летась іх было 59. Ад іх пацярпелі 115 чалавек.

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

СЯРЭДНЯЯ месячная заработная плата рабочых і служачых Беларусі ў сакавіку 1997 года склала 1 868 473 рублі (у лютым была 1 768 969) і вырасла ў параўнанні з сакавіком 1996 года ў 1,6 раза.

ПЕРШАСНАЯ перапрацоўка нафты на Наваполацкім і Мазырскім нафтаперапрацоўчых заводах у першым квартале 1997 года склала толькі 78,8 працэнта ў адносінах да адпаведнага перыяду 1996 года. Галоўная прычына — зніжэнне аб'ёмаў паставак расійскай нафты ў Беларусь.

МЭР Масквы Юрый Лужкоў прыслаў у Брэст 100 квадратных метраў сусальнага золата. Шэсць маскоўскіх майстроў прывезлі яго, каб пакрыць купалы Свята-Сімяонаўскага сабора ў горадзе над Бугам.

НЕДЗЯРЖАЎНЫЯ прамысловыя прадпрыемствы рэспублікі павялічылі ў першым квартале гэтага года ў параўнанні з адпаведным кварталам леташняга аб'ём вытворчасці на 11,7 працэнта. Дзяржаўныя — усяго на 8,6 працэнта.

ПРАВЕРКА самых прэстыжных кафэ і рэстаранаў у цэнтры Мінска, праведзеная па распараджэнню Прэзідэнта краіны, выявіла, што ўсе яны ашукваюць кліентаў.

У рэстаране "Іспанскі куток", напрыклад, у лютым з кліентаў узялі лішніх 135 мільёнаў рублёў, што складае 5 працэнтаў тавараабароту рэстарана. Неабгрунтавана высокія цэны Камітэт дзяржаўнага кантролю выявіў і ў рэстаранах "МакДональдс".

ЖЫХАРЫ Бярозаўкі, што ў Лідскім раёне, анямелі, калі ўбачылі свае магілкі раніцай 19 красавіка: 119 помнікаў было павалена або разбіты. Людзі гавораць: "Такога не было і пры фашыстах".

У САЛІГОРСКУ налічваецца каля пяці тысяч беспрацоўных. Гэта складае больш за 5 працэнтаў усіх працаздольных горада. Да таго ж на "Беларуськаліі" тут некалькі тысяч скрытых беспрацоўных.

*ДЗЕ ТАННЕЙ*



Больш таннага, чым прывезенае з прыгарадных гаспадарак, малака ў Гомелі не купіш. Гэта ведаюць пенсіянеры, у якіх на ўліку кожны рубель. І таму, калі з'яўляецца знаёмая цыстэрна, адразу ж выстройваецца чарга пакупнікоў.

# У НАС ПАСЫНКАЎ НЯМА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

асіміляцыя ішла з пастаянным паскарэннем, хаця яшчэ на самым пачатку "беларускай прапіскі" была страчана уласная мова, канчатковага знікнення татар як асобнага, самастойнага этнасу не адбылося. Выстаяць дапамагла адметная рэлігія — іслам, якая ўвесь час трымалася асабняком адносна астатніх канфесійных плыняў на тэрыторыі Беларусі. Так было калісьці, так засталося і цяпер. І можа таму, калі з'явілася магчымасць, згуртаванне татар будавалася ў першую чаргу менавіта на мусульманскай ідэалогіі і традыцыях, і сёння ў тандэме працуюць асветніцка-культурная суполка "Аль-Кітаб" і рэлігійнае аб'яднанне — муфіцят, куды ўваходзяць 23 абшчыны. Вось толькі мячэці ёсць усяго ў некалькіх з іх. Як кажа Ісмаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ, гэта бяда і засмучэнне мясцовых мусульман. Урэшце, слова яму:

— Да вайны на Беларусі было 19 мячэцей, пасля вайны засталася толькі адна — у Іўі. Многія згарэлі падчас баёў і бамбёжак, іншыя знішчаны ўжо ў мірны час, як, напрыклад, у Мінску — у 1962-м годзе. Вельмі шкада, бо ствралася мячэць на грошы, сабраныя самімі мусульманамі, была цікавым і прыгожым помнікам архітэктуры, пабудавана якраз на рубяжы стагоддзяў, у 1900-м.

У Мінску ў тыя часы існавала цэлая татарская слабада — вуліца Малая Татарская, Вялікая Татарская, Мячэтная... Зараз мы атрымалі месца для будаўніцтва новай мячэці, склалі праект дакладна такі, як быў раней. Але трэба шмат грошай. Цэлы мільён долараў. Дарэчы, участак нам адвялі там, дзе былі мусульманскія могілкі. Але зноў-такі — былі. Бо і па іх прайшліся бульдозерам...

У абшчынах толькі ў Іўі засталася адзіная старая мячэць. У 1994-м годзе мы дамагліся, каб нам вярнулі (праўда, іншую пабудову, не тую, што была раней) абшчынны дом у Слоніме, які прыстасавалі пад мячэць. І трэцяя — зусім новая, летась узведзеная за 30 кіламетраў ад Мінска, у Смілавічах, дзе таксама жывуць татары, але, на жаль, сярод якіх ужо практычна не засталося тых, хто мог бы маліцца. Ёсць некалькі старых, але ім за восемдзесят, яны і хадзіць не здольныя. А так, у святы, едзем з Мінска ў Смілавічы, туды ж накіроўваем і ўсіх прыезджых мусульман, калі тыя хочуць памаліцца.

Спадзяемся ў ліпені яшчэ на адну для нас прыемную падзею — аднаўленне мячэці ў Навагрудку, падобную на тую, што была там калісьці.

**— Ісмаіл Мустафавіч, як вы лічыце: кожны татарын абавязкова мусульманін?**

— Не, канешне. Згодна з перапісам 1989 года, татар — 12,5 тысячы. Яшчэ ёсць і азербайджанцы, казахі, узбекі, таджыкі, туркмены, курды, туркі — усіх разам, скажам так, патэнцыяльных мусульман тысяч 40—45. Але — патэнцыяльных. Семдзесят год савецкай улады не прайшлі бясследна. Наколькі я ведаю, у Татарстане нават з'явіліся татары-хрысціяне. Але сярод нашых такіх няма, а таму мы арыентуемся на традыцыйных мусульман і спадзяемся... За некалькі апошніх год ужо здолелі паволічыць колькасць абшчын. Але ведаем, засталіся яшчэ "неахопленыя" месцы досыць кампактнага пражывання татар, іншых мусульман: не маем дакладных адрасоў, каб да іх дайсці і дапамагчы арганізавацца. Дарэчы, для афіцыйнай рэгістрацыі абшчыны неабходна мець добраахвотную, падкрэслю, добраахвотную згоду не меней, як дзесяці чалавек.

**— Як вы сталі муфціем?**

— Вельмі проста: мяне выбралі на з'ездзе. Між іншым, я вельмі сумняваўся, перш чым даць згоду. Пасада адказная, на ёй павінен працаваць тэалагічна высокаадукаваны чалавек, які б дэтальна ведаў Каран і яго тлумачэнне. Пры Польшчы быў муфцій у Вільні, дык ён скончыў мусульманскі універсітэт Аль-Азхор у Егіпце.

На з'ездзе сталі глядзець, хто што ведае і можа. Мяне ж яшчэ ў дзяцінстве навучылі чытанню Карана, малітвам па-арабску, з дзесяці год я ўжо наведваў мячэць — мы тады жылі ў Клецку, яшчэ пры палякох. Бацька мой быў імамам — мулой у абшчыне. Польскімі ўладамі гэта не каралася, наадварот, кожны тыдзень у школы прыходзілі і ксёндз, і рабін, і бацюшка, і імам. Натуральна, кожны з іх займаўся з дзецьмі свайго веравызнання. Ніякіх забарон не існавала.

Пасля скончыў політэхнічны інстытут, будаўнічы факультэт. Працаваў на Урале, на Магнітагорскім камбінаце, на цаліне. Затым вярнуўся ў Мінск і чвэрць стагоддзя быў інжынерам тут. У 1989-м пайшоў на пенсію, часу вольнага стала шмат, а тут якраз арганізоўваўся "Аль-Кітаб". Я і заняўся гэтай справай.

**— Між іншым, наколькі я даведалася, і браты вашы, як кажуць, выйшлі ў людзі: Хасень Мустафавіч — доктар хімічных навук, Якуб Мустафавіч — доктар эканамічных навук. Таксама жывуць і працуюць у Мінску. Скажыце, а вядомы літаратуразнавец Сцяпан Александровіч вам не сваяк!**



— Адназначна адказаць не магу, але магчыма. Ён з усходняй Беларусі, з Капыля, а мы, як я казаў ужо, — "заходнікі". Ведаю толькі, што калі адбылося аб'яднанне Беларусі, яны нас папярэджвалі, каб мы нідзе не прызнаваліся за сваякоў. Бо тыя дагэтуль у дакументах пазначалі, што за мяжой сваякоў не маюць. А тут раптам знайшліся. Натуральна, савецкая ўлада такога не даравала б. Гэта сёння я магу не хаваць, што яшчэ адзін мой брат — Адам жыве ў Нью-Йорку і служыць там імамам. Я нават ездзіў да яго ў госці. Там таксама ёсць аб'яднанне татар, выхадцаў, так бы мовіць, з Вялікага Княства Літоўскага — менавіта з Беларусі, Польшчы і Літвы. Я шчыра вітаю іх праз вашу газету.

**— Ісмаіл Мустафавіч, а ці шмат у вашым аб'яднанні моладзі?**

— На жаль, малавата, што нас вельмі турбуе. Мы арганізавалі некалькі нядзельных школ: у Іўі, Гродне, Слоніме, Смілавічах, Ляхавічах, Навагрудку. Там, дарэчы, цалкам бясплатна выкладаюць студэнты, якія прыехалі вучыцца на Беларусь з арабскіх краін. Але і гэтага недастаткова. Ведаеце, адбіваецца нават тое, што ў татар шмат змешаных шлюбаў, а таму можа ўзнікнуць сумненне, ці пасылаць такое дзіця вучыць Каран.

**— Гэтаму неяк перашкаджаюць мусульманскія правілы!**

— Не, не. Якраз мы не супраць. Я маю на ўвазе пэўныя непаразуменні выключна ў сям'і, дзе адзін з бацькоў немусульманін. Мы ж акцэнтуем навучанне толькі на добраахвотных пачатках. Цікава, што ўжо ёсць тры выпадкі, калі беларусы прынялі іслам, дарэчы, усе яны людзі адукаваныя. А працэс прынясцця нашай рэлігіі нескладаны: трэба ўсяго вымавіць адну фразу...



Канешне, мы спадзяемся на адраджэнне нацыі і рэлігіі. Трэба выводзіць людзей з шматгадовай спячкі, вось і будзім — выдаём часопіс, газету, дасылаем іх у абшчыны. Калі б не было надзеі, то проста апусціў бы рукі і не працавалі. А так усё ж такі спадзяемся. Вось ужо заўважылі ў нядзельных школах некалькі хлапчукоў, якія сапраўды цягнуцца да гэтай справы. Трое цэлы год вучыліся ў Стамбуле на спецыяльных курсах і зараз ведаюць Каран проста дасканала, а ім усяго па 15—16 гадоў. Трэба шмат працаваць з людзьмі, бо, на жаль, у многіх, незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання, усё менш і менш застаецца духоўнага пачатку.

### СТАРАДАЎНЯЯ КУЛЬТУРА — ЯЕ ТРЭБА НЕ ТОЛЬКІ ЗАХОЎВАЦЬ, АЛЕ І РАЗВІВАЦЬ

Менавіта такую мэту ставіць Беларускае аб'яднанне татар-мусульман "Аль-Кітаб". Пра яго дзейнасць больш падрабязна расказвае віцэ-прэзідэнт, член муфціята вучоны-гісторык Ібрагім КАНАПАЦКІ.

— У 1989 годзе ў Мінску было створана гарадское грамадска-культурнае аб'яднанне — згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб". Адразу планавалася рэспубліканская арганізацыя, але некаторыя з нас вельмі спяшаліся і крышачку "напужалі" тагачасное кіраўніцтва Фонду культуры. А таму было прапанавана спачатку ствараць суполкі на месцах, чым мы і заняліся: Гродна — гарадскі "Кітаб" і вось сталіца. Але ў 1991-м годзе на з'ездзе ў Іўі зноў узнікла думка пра рэспубліканскае аб'яднанне. І тады яно было афіцыйна зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі. Сёння мы маем сваю сімволіку і сцяг, дарэчы, вельмі адметны: бел-чырвоны з зорачкай і паўмесяцам — маладзіком. Гэта наша гістарычная сімволіка, сцяг Грунвальда. Зараз да 600-годдзя хочам зрабіць падобныя значкі, але, можа, з-за вядомых абставін прыйдзецца насіць у кішэні і пасведчанне: маўляў, сімволіка афіцыйна зацверджана.

Канешне, за тыя гады, калі усё знішчалася і разбуралася, згублена шмат. Мне, як гісторыку, які займаецца даследаваннем сапраўднай белай плямы ў гісторыі нашага невялікага народа — савецкім перыядам, гэта зразумела асабліва. Што было ў XIV, XV, XVI, XVII, XVIII, XIX стагоддзях — да пачатку 1917 года, вядома. Мы ўжо перааралі гэтую дзялянку ўздоўж і ўпоперак. Але так і застаецца цьмяным, як адбылося, што ў Савецкай Беларусі, дзе жыло 4 тысячы татар, яны не ўзнялі голас, напрыклад, калі руйнаваліся мячэці. Зараз я працую з архівамі НКУС і бачу: проста бралі і ставілі да сценкі ці не пагалоўна. У верасні ў Польшчы адбудзецца канферэнцыя, прысвечаная данай тэме (у рамках 600-годдзя), то я маю намер там выступіць з дакладам.

Калі ствараўся "Аль-Кітаб", яго заснавальнікі разумелі: праблем наваліцца шмат. На той час ішоў працэс беларускага адраджэння. І ў яго рэчышчы распачалі сваю дзейнасць і мы. Гісторыя татар вельмі цікавая. Разам з маскоўскім гісторыкам Думіным мы выдалі кнігу "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць". І хаця ўжо існавала шмат разнастайных даследчых прац, асабліва ў Польшчы, на тэрыторыі якой засталася большая частка татар, вывучаць усё яшчэ ёсць што.

Нягледзячы на тое, што за гады сталінскіх рэпрэсій генафонд татар фактычна быў вынішчаны, як, урэшце, і іншых народаў, апошнім часам пасля ўтварэння арганізацыі стала ясна: людзі пацягнуліся да нацыянальнай ідэі. Хаця, можа, яна ў нас і не так моцна выяўлена, бо мы даволі спецыфічны народ — славянамоўныя цюркі, якія сваю мову страцілі некалькі стагоддзяў назад. Але застаўся стрыжань, які і дазволіў захавацца нам самім і не згубіць канчаткова ўласную культуру і традыцыі — гэта наша рэлігія, якая адначана і лад жыцця мусульман.

Што ўдалося зрабіць "Аль-Кітабу"? Складзены спецыяльныя планы святкавання 600-годдзя татарскага асадніцтва на Беларусі. Нешта з намечанага ўжо рэалізавана. Нямала яшчэ трэба зрабіць. Пад кіраўніцтвам віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча створаны спецыяльны арганізацыйны камітэт, які і ўзяў на сябе ўвесь асноўны клопат па падрыхтоўцы і правядзенні адпаведных мерапрыемстваў.

Мы правялі тры міжнародныя канферэнцыі, тэмы якіх тычыліся розных бакоў жыцця татар на землях Беларусі, Літвы і Польшчы. Дзіўна, але знаходзяцца людзі, што папракаюць нас: нашто, маўляў, гэтыя вашы канферэнцыі, лепей бы збіралі людзей і, скажам, пелі ці скакалі. Але мне здаецца (і са мной згодныя многія), у першую чаргу важна разабрацца: хто мы і што мы на гэтай зямлі, каб даць, калі хочаце, навукова абгрунтаваную канцэпцыю далейшага развіцця нашага невялікага народа. З гэтай жа мэтай, зноў-такі ўпершыню, ствараецца спецыяльны энцыклапедычны даведнік на 2 000 артыкулаў. Ініцыятар выдання — член праўлення нашага згуртавання Якуб Якубоўскі. Так што, лічу, працэс развіваецца, ідзе ўшыркі.

### У БЕЛАРУСІ ПАСЫНКАЎ НЯМА

Сапраўды, 600 год — тэрмін. Усяго хапіла на доўгім гістарычным шляху татар на Беларусі: былі ўзлёты, былі падзенні, страты. Але прайшоўшы праз усе выпрабаванні, народ захаваўся. І гэта, бадай, галоўнае. Сёння ў беларускіх татар звычайна імёны цюркскія, а прозвішчы — беларускія, і ў тым няма нічога дзіўнага, бо зямля, на якой яны жывуць ужо стагоддзі, даўно стала ім роднай, а яны — яе сапраўдныя родныя дзеці. У Беларусі пасынкаў няма.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**



**НА ЗДЫМКАХ:** члены татарскага таварыства ў Мінску; мінская мячэць. Здымак 1902 года. Разбурана ў 1962 годзе; мячэць у Смілавічах. 1996 год.

## ГІМНАЗІЯ — ГОНАР БРАСЛАВА





**Будынак браслаўскай гімназіі стаіць у цэнтры горада, на высокім пагорку, вокнамі на бязмежныя далячыні возера Дрывяты. Гімназія — гонар Браслава. Тут займаецца 220 вучняў, пачынаючы з пятага класа, якія рыхтуюцца стаць адукаванымі, высокакультурнымі людзьмі. Акрамя агульнаадукацыйных прадметаў у гімназіі вялікая ўвага ўдзяляецца навучанню камп'ютэрнай грамаце, інфарматыцы, харэаграфіі, паглыбленаму вывучэнню англійскай, нямецкай ці французскай моў. А факультатыўна многія гімназісты вывучаюць яшчэ і польскую.**

**Неўзабаве ў вучэбны працэс будзе ўведзена праграма "Чалавек у сучасным свеце", а таксама "Культура паводзін", "Чалавек і права", "Псіхалогія зносін", "Філасофія жыцця", "Чалавек і сям'я", "Уводзіны ў эканоміку".**

**Нядаўна ўзведзены і другі корпус гімназіі, дзе размесцяцца кафэ, зала гульнявых відаў спорту, вучэбныя кабінеты, студыя выяўленчага мастацтва. А ў планах — будаўніцтва інтэрната для гімназістаў з сельскай мясцовасці.**

**НА ЗДЫМКАХ: будынак браслаўскай гімназіі; у камп'ютэрным класе выкладчык Павел ШАКЕЛЬ і гімназістка Аксана КАРДЭЛЬ.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

## КУЛЬТУРНА-АСВЕТНЫЯ ЎСТАНОВЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯЎ БССР НА АБШАРАХ КАЛІНІНСКАЙ АКРУГІ 1924—1927 ГАДОЎ

# СТАЛА ЖЫВУЦЬ НА НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

На тэрыторыі Беларусі з даўніх часоў жывуць, акрамя беларусаў, палякі, літоўцы, татары, яўрэі, латышы, рускія і прадстаўнікі іншых народаў. Немагчыма вывучаць гісторыю і культуру Беларусі без вывучэння гісторыі і культуры народаў, якія з'яўляюцца нацыянальнымі меншасцямі і стала жывуць на нашай Бацькаўшчыне. Па-рознаму складваліся лёсы гэтых народаў, але адавочна адно — яны адыгралі значную ролю ў фарміраванні і развіцці беларускага народа.

У 20-я гады нашага стагоддзя склаліся найбольш спрыяльныя ўмовы для развіцця нацыянальных меншасцяў на Беларусі. У гэты час існавалі розныя культурна-асветныя ўстановы палякаў, яўрэяў, літоўцаў, латышоў, якія забяспечвалі духоўныя патрэбы асоб гэтых нацыянальнасцяў, спрыялі захаванню і развіццю іх культур на тэрыторыі тагачаснай БССР, у тым ліку і на абшарах былой Калінінскай акругі.

З сакавіка 1924 года Магілёўскі, Быхаўскі, Клімавіцкі, Рагачоўскі, Чавускі, Чэрыкаўскі і частка Рэчыцкага паветаў Гомелькай вобласці ў межах адміністрацыйнага падзелу 1920 года былі перададзены Савецкай Беларусі са складу РСФСР. Яшчэ праз чатыры месяцы, 17.07.1924 года, пастановай II сесіі БССР на Беларусі ліквідаваўся адміністрацыйны падзел на паветы і вобласці, а замест іх утварыліся акругі і раёны.

Усяго на Беларусі на той час было ўтворана 10 акруг. Адной з іх была Калінінская з цэнтрам у горадзе Клімавічы, у складзе якой было 10 раёнаў. Праіснавала яна да 9 чэрвеня 1927 года, калі былі скасаваны Барысаўская, Рэчыцкая, Слуцкая і Калінінская акругі. Восем раёнаў скасаванай Калінінскай акругі адышлі да Магілёўскай, а два (Мсціслаўскі і Раснянскі) — да Аршанскай акругі.

Вось у перыяд існавання самай усходняй часткі Беларусі — Калінінскай акругі і разгледзім пытанне існавання на яе абшарах культурна-асветных устаноў нацыянальных меншасцяў.

З моманту ўзнікнення Калінінская акруга складалася з наступных раёнаў: Бялынкавіцкага, Касцюковіцкага, Краснапольскага, Крычаўскага, Клімавіцкага, Мілаславіцкага, Мсціслаўскага, Раснянскага, Хоцімскага і Чэрыкаўскага.

Агульная колькасць жыхароў акругі на 1.IX.1925 года складала 401 111 асоб. З іх беларусаў — 277 667, рускіх — 87 223, яўрэяў — 34 756, палякаў — 1 547, іншых 1 908. Аднак гэтыя лічбы вельмі адносныя. Бо першыя дакладныя звесткі з'явяцца толькі пасля перапісу 1926 года. У дакументах маюцца і крыху іншыя лічбы на 1 студзеня 1925 года: латышоў — 530, палякаў — 1 887, рускіх — 87 023, яўрэяў — 31 966, беларусаў — 275 863, іншых — 848. Улічваючы, што розніца нязначная, будзем абапірацца на гэтыя даныя.

Усю непасрэдную працу па арганізацыі і абслугоўванню нацыянальных меншасцяў праводзіў Акруговы камітэт КП(б)Б, які актыўна распачаў працу па правядзенню ў жыццё "нацпалітыкі" з верасня 1924 года. Найбольшую ўвагу ён надаваў стварэнню і дзейнасці культурна-асветных устаноў, якія б абслугоўвалі насельніцтва на роднай мове. З гэтай мэтай пры акружкоме ўводзіліся спецыяльныя пасады інспектараў па "польрабоце" і "яўрабоце", а пры раённых выканаўчых камітэтах (РВК) адпаведныя ўпаўнаважаныя. Меліся спецыяльныя работнікі па працы сярод пэўных катэгорыяў нацменшасцяў пры камітэтах ЛКСМБ і пры акружпрафбюро.

Да культурна-асветных устаноў і ўстаноў асветы адносіліся: школы, хаты-чытальні, бібліятэкі, пункты па ліквідацыі непісьменнасці (далей лікпункты. — **І. П.**), гурткі, у першую чаргу, драматычныя, клубы, дзіцячыя дамы і дзіцячыя садзікі.

Ужо на пачатку 1924/25 навучальнага года ў Калінінскай акрузе меліся: 408 беларускіх школ (вучылася 30 074 дзяцей), яўрэйскіх — 5(718), латышская — 1(58), беларуска-польская — 1(62), беларуска-літоўская — 1(50) і яўрэйскі дзіцячы дом. У далейшым колькасць іх павялічвалася.

Установы асветы абслугоўвала 716 настаўнікаў (на 1925 год), сярод якіх было 675 беларусаў, 23 яўрэі, 17 рускіх, 2 латышы, 1 паляк.

Цяпер разгледзім непасрэдна, якія ўстановы існавалі і дзе, па нацыянальнасцях:

**Найбольш буйной групай вылучаліся рускія.**

Напачатку ўсе культурна-асветныя ўстановы былі пераважна на рускай мове. Аднак у сувязі з правядзеннем "нацпалітыкі", у прыватнасці суцэльнай беларусізацыі, у Калінінскай акрузе хутка ўжо не было ніводнай школы на чыста рускай мове. Прычым, не было скаргаў ад бацькоў. Наадварот, у наяўнасці было жаданне тых, каб дзеці вучыліся ў беларускіх школах. Падобнае назіралася і сярод часткі яўрэяў. З культурна-асветных устаноў быў адзін клуб і адна бібліятэка для абслугоўвання чыста рускага насельніцтва. І гэта ўсё. У якасці красамоўнага факта можна прывесці наступны прыклад: на ўсю акругу быў толькі адзін піянератрад і ячэйка ЛКСМ на рускай мове ў Крычаўскім раёне на чыгуначнай станцыі.

**Наступнай буйной групай былі яўрэі.**

Як ужо згадвалася вышэй, іх у акрузе налічвалася каля 31—34 тысяч чалавек. З якіх 1 890 лічыліся вытворцамі, 1 038 былі членамі прафсаюза, 600 — членамі таварыстваў саматужнікаў (10 саматужных таварыстваў у 1926 годзе), 200 былі сялянамі ў арцелях (усяго было 22 арцелі, у тым ліку яўрэйскаяземарцель у Крычаве — Антонаўка), 52 селяніны ў асобных гаспадарках, 800 гандляроў. У большасці сваёй яны кампактна пражывалі ў мястэчках, за выключэннем 2 вёсак, якія амаль цалкам складаліся з яўрэяў. Гэта вёска Антонаўка Крычаўскага раёна і Марцінаўка Бялынкавіцкага раёна.

Да савецкай улады яўрэі адносіліся лаяльна. Як адзначалася ў дакументах тых часоў: "антысавецкіх групіровак няма", толькі "ў 2 раёнах назіраліся спробы стварэння сіяніцкіх арганізацый". Пэўныя незадаволеныя савецкай уладай групаваліся на эканамічнай глебе (высокія падаткі і г. д.).

Пры Калінінскім акружкоме было ўтворана яўбюро з 5 членаў і 2 кандыдатаў, якія збіраліся на пасяджэнні амаль штомесяц (напрыклад, за 8 месяцаў 1926 года — 11 пасяджэнняў). Пры ўсіх райвыканкомах меліся ўпаўнаважаныя па яўпрацы, пры акруговых прафбюро быў спецыяльны ўпаўнаважаны па рабоце сярод яўрэяў — членаў прафсаюза. У 1925 годзе было ўтворана яўрэйскае бюро ЛКСМ у Калінінскай акрузе. Найбольш актыўна вялася культурна-асветная праца на яўрэйскай мове ў Хоцімскім, Раснянскім і Чэрыкаўскім раёнах.

Падчас існавання Калінінскай акругі назіралася тэндэнцыя да актыўнага пашырэння колькасці яўрэйскіх школ.

**Ігар ПУШКІН.**

**(Заканчэнне будзе).**

# БРАТЫ ІВАНОЎСКІЯ: ТРОЕ ВЯДОМЫХ, ЧАЦВЁРТЫ...

**Летась лідскую зямлю, на якой пражыў нямала год, двойчы наведаў вядомы літаратар з Варшавы Земавіт Фядэцкі. На другую пабыўку ў Беларусь ён прыязджаў з сястрою Барбарай і яе мужам Мікалаем Брунарам, якія даўно пражываюць у Францыі. Падчас маіх задушэўных гутарак-успамінаў з варшаўскім госцем менш разгаворлівы пан Мікалай, пачуўшы нашу размову пра Іваноўскіх, раптам палез у партфель, дастаў адтуль невялікую кніжку і паказаў мне:**

**— Ці не пра вашых землякоў гэта кніга?**

**У руках у мяне была кніжка Казіміра Іваноўскага "Wspomnienia z kresowoj mlodosci". Знаёмлюся з кароткай даведкай пра аўтара, які нарадзіўся ў 1922 годзе ў Вільні, у сям'і адваката, і з'яўляецца сынам Станіслава. Не, думаю, да вядомых братоў Іваноўскіх з-пад Васілішак ён, відаць, не мае ніякага дачынення. І, да свайго задавальнення, памыліўся. Зразумеў гэта, глянуўшы на ілюстрацыі і ўбачыўшы добра знаёмыя будынкі ў Лябёдцы і Галавічполлі былога Васілішкаўскага, а зараз Шчучынскага раёна. Прабег некалькі абзацаў аўтарскай прадмовы і даведаўся, што Станіслаў, бацька Казіміра, родны брат згаданых братоў.**

**Чым яны былі вядомыя? Усе трое былі рознай нацыянальнасці. Старэйшы па ўзросту Ежы быў палякам, не раз займаў пасады міністра і сенатара другой Рэчы Паспалітай. Прафесары Вацлаў і Тадэвуш лічылі сябе адпаведна беларусам і літоўцам. Першы з іх пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і ў 40-х гадах змагаўся за ідэі Беларускай Народнай Рэспублікі і быў забіты ў Мінску, другі ж праславіў сваё імя як знакаміты вучоны-заолаг Літвы Тадас Іванаўскас.**

**Яшчэ аб трох братах. Кожны з іх быў тройчы жанаты, а таму, піша аўтар, ён меў многа цётак. У кнізе прыводзіцца такі факт. У 20-х гадах маці Казіміра на нейкім прыёме ў Вільні была прадстаўлена самому Пілсудскаму. Той запытаў, якога Іваноўскага яна жонка. "Таго, што мае толькі адну жонку", — адказала жанчына. "Гэта значыць, Станіслава", — сказаў добра інфармаваны маршал, які дасканала ведаў віленскую эліту.**

**Ды пакінем свецкія рауты, а лепш разам з аўтарам наведаемся ў тую ж Лябёдку і навакольныя вёскі. Цікава і міла піша Казімір Іваноўскі пра жыццё і заняткі ў тых мясцінах сваякоў і тутэйшых сялян. Расказвае аб незабыўнай прыродзе мясцін, дзе прайшлі маладыя гады, не хавае цяжкасцей і канфліктаў даваеннага часу і гадоў акупацыі. І таму кніга ўяўляе сабою цікавасць для краязнаўцаў і шырокага кола чытачоў. Словам, гэтым творам сын малавядомага Іваноўскага і польскі вучоны ў галіне машынабудавання памог многім землякам лепш пазнаць гісторыю роднай старонкі.**

**І апошняе. На адным з фотаздымкаў я ўбачыў дом Іваноўскіх у Лябёдцы, які называлі палацам. З пасляваеннага часу там месціцца дзіцячы прытулак. Глянуў на здымак і ўспомніў пачутую колькі гадоў назад у Вільні прапазіцыю літоўца-навукоўца, які родам з-пад нашай Радуні. Думка яго такая: стварыць калісьці ў Лябёдцы музей дружбы беларусаў, палякаў і літоўцаў, кім лічылі сябе браты Іваноўскія. Дай Бог, каб у нашым родным краі менш стала абяздоленых дзяцей. Тады можна было б спадзявацца, што выслабаніцца некалі той палац і ў ім стане магчымым адкрыць музей народаў-суседзяў, які ўславіць іх лепшыя рысы і традыцыі.**

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

# ВАЙНА. РЭВАЛЮЦЫЯ. МОВА.

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

часткі), працягвалася палітыка, сфарміраваная ў папярэднія дзесяцігоддзі: непрызнанне самастойнасці беларускай мовы ў тэорыі і максімальнае абмежаванне яе сацыяльных функцый на практыцы. Акрамя побытавых зносін, яна была дапушчана толькі ў сферу прыгожага пісьменства, перыядычнага друку і аматарскай культурна-асветнай дзейнасці. Фактычна з прычыны рэальных альбо штучна створаных цяжкасцей ваеннага часу функцыянаванне беларускай мовы нават у гэтых сферах звузілася: закрыліся рэгулярныя беларускія выданні, прыпынілі дзейнасць аматарскія культурныя беларускія выданні, прыпынілі дзейнасць аматарскія культурніцкія суполкі. З другога боку, царскія ўлады дазволілі адкрыць нацыянальныя таварыствы дапамогі пацярпелым ад вайны, якія, стаўшы легальнымі асяродкамі адраджэнцкага руху, карысталіся беларускай мовай ва ўнутраных зносінах, вялі на ёй працу ў сваіх дабрачынных установах.

Больш спрыяльныя абставіны для пашырэння сацыяльных функцый беларускай мовы склаліся ў Заходняй Беларусі пасля акупацыі яе летам-восенню 1915 года войскамі кайзераўскай Германіі. Імкнучыся аслабіць на занятых землях расійскія ўплывы, немцы ўвялі тут абмежаванні для рускай мовы і адначасова афіцыйна дазволілі ўжываць у адміністрацыйным, грамадскім і культурным жыцці мясцовыя мовы.

У беларускім пытанні германскі ўрад доўга не мог канчаткова вызначыцца, але прызнаў нацыянальную адметнасць беларусаў і раўнапраўе іх мовы поруч з польскай, літоўскай і іншымі мовамі краю. Мясцовая адміністрацыя на Віленшчыне, Гродзеншчыне, Беласточчыне ў зносінах з насельніцтвам абавязана была карыстацца і беларускай мовай. Пашырэнню сферы яе бытавання спрыяла актыўная дзейнасць легальных і канспіратыўных беларускіх арганізацый, якія дамагаліся аднаўлення на землях былога Вялікага Княства Літоўскага супольнай беларуска-літоўскай дзяржавы, з забеспячэннем поўных правоў усім нацыям. Сярод насельніцтва яны вялі вусную і друкаваную прапаганду па-беларуску. У 1916—1918 гадах у Вільні пад кантролем нямецкай адміністрацыі выдавалася беларуская газета "Гоман". Выходзілі з друку кнігі і брашуры на беларускай мове. Наладжваліся беларускія культурныя імпрэзы. Гістарычна важнай з'явай стала зараджэнне на занятай немцамі тэрыторыі сістэмы беларускага школьніцтва — тым самым беларуская мова засвойвала новую сферу бытавання. Першая беларуская пачатковая школа распачала працу ў Вільні ў лістападзе 1915 года; к вясне 1918 года ў зоне "старой акупацыі" такіх школ было больш за 150. Арганізоўваліся беларускія курсы для настаўнікаў, у 1916—1918 гадах у мястэчку Свіслач Ваўкавыскага павета дзейнічала першая беларуская настаўніцкая семінарыя. Было наладжана выданне падручнікаў, зроблены першыя спробы стварыць беларускую навуковую тэрміналогію. Але ў той жа час акупацыйныя ўлады рашуча перапынялі тыя грамадскія ініцыятывы ў нацыянальна-культурнай галіне, якія не стасаваліся з іх намерамі.

На тэрыторыі, што заставалася пад расійскай юрысдыкцыяй, моцны імпульс узвышэнню грамадскага статуса беларускай мовы дала рэвалюцыя 1917 года. Пасля падзення царызму былі адменены саслоўныя, рэлігійныя і нацыянальныя абмежаванні. У варунках шырокіх палітычных свабод, аслаблення цэнтральнай агульнарасійскай улады сацыяльныя пазіцыі кожнай мовы шмат у чым сталі залежаць ад ініцыятывы знізу, ад суадносін паміж нацыянальна-патрыятычнымі і вялікадзяржаўна-цэнтралісцкімі сіламі. На Беларусі падчас рэвалюцыі рабіліся спробы ліквідаваць манаполію рускай мовы ў адміністрацыйнай сферы, але яны заўсёды сустракалі моцнае процідзеянне. Таму на працягу 1917 года ў органах улады і мясцовага самакіравання беларуская мова практычна не загучала. Перспектывы ўмацавання яе пазіцый у грамадстве непасрэдна залежалі ад дзейнасці беларускіх адраджэнскіх арганізацый, ад выніковасці іх барацьбы за нацыянальную дзяржаўнасць, аптымальнай формай якой на той час лічылі тэрытарыяльную і нацыянальна-палітычную аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай федэратыўнай рэспублікі. Меркавалася, што ў аўтаномнай Беларусі права роднай мовы на развіццё і выкарыстанне ў дзяржаўна-адміністрацыйным, грамадскім жыцці, у сістэме адукацыі будзе замацавана заканадаўча. Цвяроза ацэньваючы рэальную моўную сітуацыю, беларускія адраджэнцы не фарсіравалі дасягненне гэтай мэты. Але самой сваёй дзейнасцю спакваля яны пашыралі грамадскі арэал бытавання роднага слова. Па-беларуску праводзіліся мітынгі, распаўсюджваліся беларускамоўныя лістоўкі, перадвыбарчыя адозвы і г. д.

У красавіку—чэрвені 1917 года ў Мінску выдавалася газета "Грамада" — орган адроджанай Беларускай сацыялістычнай грамады, з мая 1917 да канца 1918 года выходзіла грамадска-палітычная, эканамічная і літаратурная газета "Вольная Беларусь". Друкаваліся літаратурна-мастацкія і публіцыстычныя брашуры. Нарастаў самадзейны культурна-асветны рух. Выдатным прапагандыстам роднага слова стала створанае ў красавіку 1917 года Першае беларускае таварыства драмы і камедыі, якое гастралявала па ўсім краі. Летам 1917 года патрыятычна настроеныя ксяндзы-беларусы распачалі інтэнсіўную працу па ўвядзенню беларускай мовы ў касцельнае набажэнства. Сярод настаўнікаў усё большае разуменне знаходзіла ідэя беларусізацыі школы. У выніку ўслед за Заходняй Беларуссю ў 1917/18 навучальным годзе першыя парасткі беларускага школьніцтва прабіліся і з усходняга боку фронту. Прыход у кастрычніку 1917 года ўлады бальшавікоў, якія з зацятай агрэсіўнасцю паставіліся да нацыянальнага адраджэння беларусаў, прытармазіў працэс культывавання беларускай мовы ў розных сферах грамадскага жыцця. Аднак у першы, кароткі перыяд свайго кіравання на Беларусі (з кастрычніка 1917 да лютага 1918 года) бальшавікі не здолелі цалкам выцесніць беларускае слова з ужо здабытых пазіцый.

Пасля адыходу бальшавікоў на ўсход у выніку новага германскага наступлення асноўнае ядро беларускай тэрыторыі (за выключэннем некалькіх паветаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў, што засталіся ў складзе савецкай Расіі) зноў апынулася пад кантролем адной дзяржаўна-палітычнай сілы — германскіх ваенных улад. Дзве плыні беларускага адраджэння, падзеленыя раней лініяй фронту, злучыліся ў адзін паток. У сакавіку 1918 года абвяшчаецца Беларуская Народная Рэспубліка як незалежная і вольная дзяржава. Пытанне пра ступень суверэннасці гэтай рэспублікі, аб'ём уладных паўнамоцтваў яе палітыка-адміністрацыйных структур застаецца дыскусійным. Але бясспрэчнымі з'яўляюцца поспехі БНР у нацыянальна-культурным будаўніцтве. Перыяд існавання БНР — адзін з найвышэйшых узлётаў у гісторыі беларускай мовы. У красавіку 1918 года яна была абвешчана дзяржаўнай і абавязковай мовай рэспублікі. На ёй павінны былі складацца ўсе дзяржаўныя акты, дакументы ўрадавых устаноў, весціся афіцыйная перапіска. Упершыню ў эпоху новай гісторыі мова беларускага народа набывала дзяржаўны статус. Гэта немінуча павышала яе прэстыж, спрыяла развіццю афіцыйна-дзелавой лексікі, паскарала ўкараненне мовы ў іншыя сферы грамадскага жыцця. Пасля абвяшчэння БНР прыкметна ўзрасла выдавецкая дзейнасць: у 1918 годзе выходзіла каля дзесятка беларускамоўных газет і часопісаў, было выпушчана некалькі дзесяткаў кніг і брашур, значную частку якіх складалі падручнікі. Небывалы размах атрымала сетка беларускіх школ: на канец 1918 года даследчыкі налічваюць іх ад 200 да 350. Адкрыліся першыя беларускія прафесійныя навучальныя ўстановы. У Мінску вялася падрыхтоўчая праца па заснаванні Беларускага універсітэта. На пачатку 1918 года ў Вільні пачало дзейнічаць Беларускае навуковае таварыства, якое шмат зрабіла для перакладу на беларускую мову мастацкай і навуковай літаратуры. Працягвалася ўвядзенне роднага слова ў рэлігійнае жыццё. Услед за каталіцкім духавенствам да беларускай ідэі пачалі далучацца праваслаўныя святары. Масавы характар набыў у БНР стыхійны культурна-асветны рух. На яго грунце выраслі артыстычныя калектывы, якія набывалі сталы, прафесійны характар.

Аднаўленне на Беларусі савецкай улады пасля паражэння Германіі ў вайне і адыходу германскіх войск (лістапад-снежань 1918 года) сарвала рэалізацыю канцэпцыі беларускай дзяржаўнасці ў форме незалежнай дэмакратычнай рэспублікі. Адпаведна застаўся незавершаным заканамерны працэс станаўлення беларускай мовы ў якасці паўнавартаснага сродку зносін і найважнейшага атрыбута суверэннай нацыянальнай дзяржавы. Але сур'ёзнае ўзрастанне за гады першай сусветнай вайны сацыяльнага статуса беларускага слова стала паказальным прэцэдэнтам, неабвержным гістарычным доказам яго здольнасці абслугоўваць найважнейшыя сферы жыцця сучаснага грамадства. Разам з тым падзеі васьмідзесяцігадовай даўнасці і наступныя гістарычныя калізіі падводзяць да высновы, што набыццё беларускай мовай усёй паўнаты сацыяльных функцый магчыма толькі пры няўхільным умацаванні незалежнай беларускай дзяржавы, калі працэс напаўнення яе суверэнітэту рэальным зместам стане незваротным.

**Станіслаў РУДОВІЧ.**

*ПАЛЕСКАЯ ГЛЫБІНКА*



# ДРАГІЧЫН

У глыбіні самабытнага, непаўторнага палескага краю, на перакрыжаванні шматлікіх дарог, знаходзіцца невялікі гарадок Драгічын (мясцовае Дорогычынь). З першага погляду, звычайны райцэнтр, якіх шмат на Беларусі, але гісторыю ён мае цікавую. Перш за ўсё цікавае паходжанне назвы гарадка. Якіх толькі версій не існуе наконт гэтага! Мабыць, на Беларусі не шмат знойдзеш населеных пунктаў з такой колькасцю варыянтаў назвы паходжання. Адна група аўтараў лічыць, што горад атрымаў сваю назву ад геаграфічнага палажэння на скрыжаванні важных дарог з Галіцкай Русі на Навагрудак і Слонім, а таксама з Брэста ў Пінск, а можа быць, назва Драгічына звязана з племенем дрыгавічы, што жыло на гэтых землях у глыбокай старажытнасці. Яшчэ бытуе версія, што назва звязана з вырабам дрог — доўгай павозкі без кузава. Але нідзе ў бліжэйшых сёлах не засталося доказу існавання гэтага рамяства. Спроба тлумачэння паходжання назвы Драгічын ад балтыйскага "дрэгас", што значыць сыры, не мае падстаў, таму што балотныя масівы знаходзяцца на значнай адлегласці ад горада, а сам горад размяшчаецца на невялікім узвышшы пад назвай — Загарадзе, і, акрамя таго, назва Драгічын з'явілася ў XVII стагоддзі.

І, нарэшце, у апошні час многія тапанімісты пачатак назвы Драгічын знаходзяць у асабістай назве, шырока распаўсюджанай ва ўсходніх славян (Дораг, Дарагамір), у заходніх (Драган, Драгамір). Да сённяшняга часу мясцовае насельніцтва гаворыць Дарагічын, Дорогычынь.

Цікава, што ў суседняй Польшчы таксама ёсць свой Драгічын, некалі буйны горад. У часы Вялікага Княства Літоўскага польскі Драгічын быў не менш вядомы, чым Бярэсце ці Гародня.

Наш палескі Драгічын маладзейшы за польскі. Упершыню ён упамінаецца ў 1452 годзе, і называўся ён тады Давячоравічы. Тут знаходзіўся княжацкі двор — адміністрацыйны цэнтр кіравання сёламі заходняй часткі княства. Пасля смерці апошняга пінскага князя Фёдара Іванавіча ў 1521 годзе ўсе княжацкія сёлы, у тым ліку і Давячоравічы, уваходзілі ў лік каралеўскіх, так званых сталовых маёнткаў.

Удалае геаграфічнае месцазнаходжанне Давячоравічаў паспрыяла ўстанаўленню тут кірмашоў і ўвядзенню сяла ў ранг мястэчка (1623 год). Звесткі аб часе і прычынах змены старажытнай назвы Давячоравічы на больш новае — Драгічын не засталіся. Як і Беларусь, мястэчка неаднаразова разбуралі войны. Так было ў часы народнага паўстання, якое ўзначальваў Б. Хмяльніцкі, і польска-шведскіх войнаў сярэдзіны XVII і пачатку XVIII стагоддзяў.

У інвентары, складзеным у 1779 годзе, усе вёскі, што раней знаходзіліся пад кіраўніцтвам Давячоравіцкага двара, увайшлі ў склад Драгічынскага графства ўладара Астроўскага. Назву Давячоравічы сярод іх не сустракаем.

У Драгічыне інвентар пералічвае царкву, кляштар, манастыр, кірмаш і вуліцы: Хомская, Пінская, Пярковіцкая. Вёскі Зарэчка (з поўдня) і Стараселле (з поўначы) лічыліся прадмесцямі, а Драгічын — горадам. З 1795 года ў складзе Расіі. Быў цэнтрам воласці Кобрынскага павета Гродзенскай губерні. Па першаму перапісу насельніцтва Расійскай імперыі Драгічын налічваў 2 258 жыхароў, а ў 1905 годзе — 2 640 чалавек. У XX стагоддзі гарадок перажыў шмат войнаў. У першую і другую сусветныя войны Драгічын быў амаль поўнасцю спалены.

Не пазнаць горад (гэты статус ён атрымаў у 1967 годзе) сёння. Зараз ён налічвае каля 16 тысяч чалавек. Яго вуліцы ўпрыгожваюць шматпавярховыя сучасныя дамы, зялёныя насаджэнні, кветкі. На цэнтральнай вуліцы, якая яшчэ дасюль носіць імя Леніна, размешчаны шматлікія адміністрацыйныя і жылыя будынкі, многія з якіх яшчэ даваенных часоў.

У горадзе працуе адзін з буйнейшых у Беларусі трактарарамонтны завод. Акрамя таго, маецца камбікормавы завод, у Беларусі і за яе межамі вядомая прадукцыя драгічынскіх сыраробаў. Нядаўна пачаў працаваць цэх па вырабу гематагену на заводзе медпрэпаратаў. Шырока вядомы на Брэстчыне мясцовы кірмаш.

Са зменай мясцовай улады змянілася жыццё горада. Асабліва вялікія змены адбыліся ў сферы гандлю. Пабудаваны і рэканструяваны за апошнія 3 гады шматлікія магазіны. Многія з іх такія прыгожыя, што нагадваюць еўрапейскія супермаркеты, і цэны ў іх больш-менш прыстойныя.

Цэнтральную вуліцу горада ўпрыгожвае гімназія з плавальным басейнам, пабудаваная ў пачатку 90-х гадоў, шматлікія крамкі, кафетэрыі, рэстараны. Адным словам, старажытны Драгічын стаў яшчэ больш прыгожым.

**Юрый МАКСІМОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: праваслаўная царква ў Драгічыне; зона адпачынку ў Драгічыне.**





Нина (Михалина) БУЙЛО

# ПО ПРОЙДЕННЫМ ДОРОГАМ



Я приходила в отчаяние, она несколько раз так примяла мне ногу, что я думала — не вылезу из-под нее. Вся дорога изрыта окопами, перегорожена проволочными заграждениями. С большим трудом я добралась до управления. Рассказала начальнику о своем положении. Просила улучшить питание. Домой моя лошадь несла меня, как безумная, перепрыгивая и заграждения, и окопы. Не слушалась меня совсем. И самое страшное, когда я приехала во двор, она, почуяв конюшню, понесла меня туда галопом. Мне стало страшно, что в воротах мне оторвет голову. Я прилипла вся к лошади и благодаря тому, что ворота были довольно высокими, уцелела. Лошадь внесла меня в стойло. Еле живая, я доплелась до своего леса.



Не знаю, имел ли воздействие мой визит к начальнику, так как я вскоре заболела сильной дизентерией. Долгое время я лежала в землянке, и только когда поднялась температура до 40 градусов и появилась кровь, меня увезли в полевой госпиталь. Это были палатки в лесу, где лежали пленные австрийцы, в отгороженом углу стояли две койки, где лежала я и еще одна девушка. Ухаживал за мной молодой пленный австриец. Я часто, открывая глаза, видела, как он стоял у дверей и смотрел на меня страдальческими глазами. Помню, как в одну ночь я увидела у своей постели старушку в белом чепце. Врачи думали, что в эту ночь я умру. Лечили касторкой и черникой. Родители не знали о моей болезни. Когда выписали из больницы, мне дали отпуск и я поехала домой в Заозерье. Погостив немного у родителей (дома были только отец, мама и Витя), я уехала опять в Полоцк, где был наш главный штаб. Меня послали в какое-то имение, где был отдел Земсоюза. Я там опять была почтальоном, а оттуда уехала в Минск.

В Минске нас поместили в общежитии, там же и кормили. Управление находилось довольно далеко от центра. Вскоре мне поручили организовать столовую для санитаров. Это было пустое здание во дворе, недалеко от улицы Губернаторской и парка, в котором стоял театр. Я сейчас не помню, как я все это организовывала, но столовую открыла, и меня назначили заведующей. У меня был целый штат, был кладовщик старик-заика. Сейчас не представляю, как я справлялась с этой работой. Мне было 17 лет и 8 месяцев, я была малограмотная и очень неопытная. Но, видимо, организаторские способности имела. Трудности были с отчетностью, но ко мне иногда приходили культурные женщины пересидеть день, видимо, это были революционерки, которые прятались от полиции, они предлагали мне свои услуги. Я им с удовольствием давала документы, они вели книгу расходов и приходов, чему я была очень рада.

Печь мне топил китаец. Как-то из Риги приехала в отпуск Стася. Мы с ней легли спать, а китаец, затопив печь из коридора, закрыл рано трубу. Печь была с трещинами, и угар проник в комнату. Мы проснулись со страшным сердцебиением, и Стася сказала: "Мы угорели" ... Мы были совершенно беспомощными, особенно Стася. Помню, что у меня мелькнула мысль: мы умрем, а ведь я еще так молода. Я с трудом перевалилась через Стасю, которая лежала без чувств, и почти в бессознательном состоянии доползла до дверей. Нащупав рукой ключ, открыла дверь и осталась лежать на полу. Комната моя выходила в коридор и на крыльцо. Свежий воздух привел нас в чувство. Была уже осень, Стася не уехала от меня. Не смогла: пришли немцы.

Вернусь несколько к прошлому. В Минске я пробыла 1 год, но произошло много событий. Ходила я в кожаной куртке и в косынке сестры милосердия (такая была форма у нас). Я очень любила театр и кино. Однажды я пошла на какую-то вещь в кино, где играли Вера Холодная и Полонский. В фойе в ожидании сеанса рядом со мной в толпе стоял высокий военный в длинной шинели с Георгием на груди. Когда нас впустили в зал, он сел рядом со мной. После кино он вышел за мной и спросил: "Сестрица, разрешите вас проводить?". И мы пошли по Губернаторской улице, потом свернули к театру и пришли к моему дому. Кажется, это была Захарьевская улица. Оказалось, что он студент Петербургского института сельского хозяйства, помещик из-под Минска Всеволод Сперанский. Мы очень часто посещали театр, я просмотрела все оперетты и все драматические постановки. Зная установку Косточки, что ходить за счет мужчины в театр нехорошо, это обязывает женщину, я решила ходить с ним в театр на равных: один раз он меня ведет, а другой раз — я его. Он часто и долго спорил, но я поставила на своем. Мне было приятно ходить в театр с таким интересным парнем. Но я ничего серьезного к нему не питала. Когда он уезжал из Минска, то просил своего родственника опекать меня. Это были культурные и порядочные люди, они мне сочувствовали: я одна девчонка без родителей, самостоятельно работаю. А тогда фронт был у Орши.

В Минск приехал Керенский, по улицам шли демонстранты. Керенский ехал на грузовой машине со спущенными бортами и произносил речь. Я тогда ничего не понимала в политике и не прислушивалась. Но помню, что на улицах было много народу и все слушали его. Как хорошо, что в это время со мной была Стася. Земсоюз куда-то девался, все разъехались.

Через несколько дней в Минск вошли немцы. Они шли с оркестром, состоящим из каких-то свистулек. Народу на улицах было много, в том числе и я со Стасей. С их приходом для нас настали черные дни. Без работы и без денег. Дом, где жили мы со Стасей, опустел. Поговаривали, что его займут немцы. Мы со Стасей побаивались там жить одни. Оказавшись отрезанными от родителей, мы пришли в отчаяние. Стали ходить по Минску в поисках любой работы. Но тщетно. Все учреждения закрылись, была безработица. Нужны были люди, знающие немецкий язык. Мы по своей наивности пошли в комендатуру, выстояли громадную очередь, просили разрешить нам выехать в Витебск. Но немцы через фронт пропусков не давали. В Орше были красные. В перспективе нас ждала улица. Устроиться хотя бы няней, уборщицей, прачкой не было возможности. Мы со Стасей изо дня в день ходили по Минску, не пропуская ни одного дома, в поисках любой работы, но безрезультатно. Никому ничего не нужно было. Немцы заполонили Минск. Мы остались без денег и работы. Уехать куда-нибудь было невозможно, на поезда пропусков не давали. Можно было уйти только пешком, но куда?

Вот тут Стася и вспомнила про княгиню Радзивилл. Ухватились за нее, как за якорь спасения. Стали думать, как мы к ней пойдем, что будем говорить. Конечно, напомним о Косточке. А главное нас волновало, в Минске ли она. Однажды мы увидели там старика в ливрее, спросили, здесь ли княгиня. Он ответил, что здесь. Назавтра мы решили пойти к ней обе. Приоделись во все лучшее, что было у нас, и пошли с последней надеждой, с ужасом думая, что если она нам не поможет, мы погибли! Мы вошли в переднюю. Горничная нас встретила не очень любезно, но пошла доложить. Мы сказали, что сестры белорусской поэтэссы Буйло. Нас позвали в покои княгини.

Працяг.
Пачатак у №№ 15-17.

**НА ЗДЫМКАХ: Іна БУЙЛО з мужам С. ЛЫСОВЫМ і дзецьмі АЛЕГАМ і ЛЮДМІЛАЙ. 1930 год; сёстры КАНСТАНЦЫЯ і ІНА БУЙЛО і яе ўнучка МАРЫНА. Нясвіж, 1961 год.**

*З ШОСТАЙ ЛІНІІ*

# ЦІ ЁСЦЬ НА ШТО ГЛЯДЗЕЦЬ?

Па вуліцы сумна плёўся зусім белы вялізны сабака незразумелай пароды. Ён спыніўся насупраць будынка, у якім знаходзіцца галерэя сучаснага мастацтва "Шостая лінія", злосна атросся і ператварыўся ў чорнага дварняка стандартных памераў. Сабака быў канцэптуальным, як і выстава "TODESSCHAFT", што адкрывалася тут снежным сакавіцкім вечарам.

Самі мастакі слова "выстава" пазбягалі, называючы прадстаўленае "праектам". На думку яго стваральнікаў, больш за ўсё іх цікавіць праблема сувязей — "калектыўных адносін у сучасным мастакоўскім асяроддзі і магчымасці пластычнага ўзаемадзеяння мастакоў між сабой аж да кантакту ўкаранення". Хто хоча ўцяміць, што гэта значыць, — калі ласка, на Шостую лінію.

Падзеленая кволым падабенствам да сцен прастора сустракала наведвальнікаў мілымі сюрпрызамі. Яшчэ каля дзвярэй знаёмы мастак паабяцаў, што "дзеці абавязкова парадуюць чым-небудзь востранькім і страшненькім". Як у ваду глядзеў! Адна са сцен імправізаванага лабірынта была ўпрыгожана завостранымі кравецкімі нажамі, а шэсць пратэзаў правай нагі з прыспушчанымі шкарпэткамі прымушалі соладка ўздрыгваць і заміраць сэрцы дам-эстэтак.

Саму назву праекта "Todesschaft" мастакі перакладаюць, як "смяртэльная сувязь". Гульня са смерцю ці са словам "смерць" у маладых мастакоў і паэтаў — хвароба такая ж непазбежная, як вятранка ў дзяцей.

— У былыя часы слова "выстава" непарыўна звязвалася са словам "мастацтва". Як сёння, на ваш погляд, суадносяцца гэтыя паняцці? — спытала я ў аднаго з удзельнікаў праекта.

— Я думаю, што гэта безумоўна творчасць прамога дзеяння...

—Сёння ў Беларусі гэты выраз крыху двухсэнсоўны...

— Гэта так, але я думаю, што параллеляў можна не баяцца, таму што мастацтва з'яўляецца папярэднікам працэсаў, што адбываюцца ў грамадстве.

— Вы не баіцеся наклікаць бяду?

— Чым больш брутальны характар будзе насіць мастацтва, тым хутчэй будзе рэагаваць грамадства.

— На каго разлічана выстава?

— У любым выпадку людзям, старэйшым за сорак, прадстаўленыя тэксты чытаць не пажадана.

Вышэйсказанае неяк адразу прымусіла адчуць сябе значна старэйшай за намінал і ледзь не забіла апошнюю надзею пранікнуць у сутнасць таго, што тут адбываецца. Аднак дасведчаныя людзі растлумачылі, што да ўсяго прадстаўленага трэба ставіцца, як да працэсу, які ўжо сам па сабе з'яўляецца мастацтвам. А яшчэ лепш — як да спосабу творчага самавыяўлення, які, хаця ніхто і не разумее, але тым не менш усім страшэнна падабаецца.

Гасцей частавалі кактэйлем, рэцэпт якога мясцовы бармен ахвотна паведамляў усім жадаючым: роўныя часткі амерыканскага спірту і водаправоднай вады з бліжэйшага туалета змешваюцца ў медным тазіку і разліваюцца сімпатычным апалонічкам у водачныя келіхі.

У чарзе да тазіка майстар і аматар канцэптуальных жудасцяў Артур Клінаў сказаў, што выстава яму спадабалася, хаця фармуляваць яшчэ рана.

З пачутага ў натоўпе шматлікіх наведвальнікаў: "Як добра, што яшчэ ёсць куды прыходзіць і на што глядзець!" Можа быць, сёння гэта і ёсць галоўная мэта мастацтва?

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



# СА СЦЭНАЙ КРЭЎНЫ ДАГАВОР

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

— Не, браце, не з'яўлялася тое, і нічога такога ўва мне не спараджалася, — адказвае мой субяседнік. — Магчыма, недзе ў тайніках душы жыло адно лятуценнае спадзяванне: у тэатр я абавязкова вярнуся, куды б мяне ні вяла тая лесвіца лёсу.

Ён спасылаецца на "лесвіцу" трохі насмешлівым тонам, бо я, перабраўшы ў памяці яго кар'ерныя крокі ў партыйна-дзяржаўным апараце, дазволіў сабе пажартаваць і сказаць нешта накшталт таго, што ў чыноўніцкім свеце іерархія — гэта лесвіца для кіраўнікоў, на кожнай прыступцы якой таго, хто па ёй шыбуе ўгару, падпільноўвае схаваны за пачцівай маскай сапернік. Іван Іванавіч, відаць, шануе ўсякую карысную працу, і яму прыкра слухаць кпіны ў адрас наменклатурных службоўцаў, якія часта робяць сапраўды добрыя справы і ў структурах улады. Што ні кажы, а такая карпарацыйная ўпадоба заслугоўвае павагі.

Пятнаццаць гадоў ён дырэктарствуе ў нашым правафланговым, як называюць Купалаўскі, тэатры. Менавіта "пры Вашкевічу" гэтай сцэне нададзена годнасць Нацыянальнага тэатра, што замацоўвае за ім статус асаблівы. Яму наканавана быць тэатральна-мастацкім выразнікам народнай душы, беларускай адметнасці чалавечых характараў і супольнага лёсу — лёсу нацыі. Я гавару надта патэтычна?

— Не-не, па сутнасці, так яно і ёсць, — ажыўлена згаджаецца са мной толькі што амаль перапоўнены насмешлівым настроем "пан дырэктар". — Спадзяюся, што мне даруюць, калі я паўтару сказанае некалі нашым вялікім папярэднікам Фларыянам Ждановічам, у верасні дваццатага... пасля адкрыцця БДТ спектаклем "Рысь" паводле Э. Ажэшкі і Купалавай "Паўлінкі": "А што, хлопцы, мо мы з вамі ладзім відовішча, якое кладзе пачатак існаванню на Беларусі свайго ўласнага — накшталт "Камеды Франсэз" або піцерскай Александрынкі... Шчэпкінскага Малога ці знакамітага "Олд Вік" у Лондане..."

— І што — атрымліваецца? — карціць мне пад'юдзіць дырэктара-ганарліўца. — Хто-небудзь з аўтарытэтаў лічыць купалаўскую трупу роўнай трупе той жа "Камеды Франсэз"?

— Не лавіце мяне на слове, — строга адказвае І. Вашкевіч. — Ваш брат-тэатрал павінен ведаць, што кожная з'ява ў такім непасрэдна жывым мастацтве, як мастацтва сцэны, — адметная... непаўторная... непараўнальная... І дарэмна настырацца нам з Фларыянам Паўлавічам. Ён... яго паслядоўнікі і наступнікі... вучні... купалаўцы... прынамсі, лепшыя і сумленныя... бяруць чынны ўдзел у гартаванні і ўва ўдасканаленні па сучасных эстэтычных крытэрыях свайго мастацтва... Беларускай школы акцёрскага рамяства... Беларускага тэмпераменту ў раскрыцці і трактоўках адвечных праблем існавання чалавека сярод да сябе падобных — у грамадзе. Няма чаго і спрачацца, сцэнічнае мастацтва прызнана ва ўсім свеце як універсальны спосаб паляпшаць норавы і ўдасканальваць чалавечую мараль, каб яна рабілася добрапрыстойнай. І нацыянальная творчая спецыфіка — абавязковы элемент тае універсальнасці.

Калі я збіраўся гутарыць з І. Вашкевічам, звярнуўся да аднаго з вядучых майстроў сцэны з пытаннем, што найбольш каштоўнае ў дзейнасці цяперашняга дырэктара ў Купалаўскім.

— Адно тое, што ён прыклаў значны высілак, каб у нашым рэпертуары заўсёды прысутнічала "Паўлінка"... Разумееце, ці не са дня яе прэм'еры на спектакль пасыпаліся пякельна знішчальныя крытычныя... і не толькі крытычныя... заўвагі, папрокі, ідэалагічныя абвінавачанні ў нібыта скажоным люстры, якое адлюстроўвае задуму Янкі Купалы. Ды і ў нашым тэатральным асяроддзі знаходзяцца дамарослыя Заілы і хто дзе лямантуюць пра нібы архаічную фальклорную атмасферу ды пра састарэлыя прыёмы рэжысуры, пра наіўны змест п'есы... Не будзем спрачацца, спектакль за пяцьдзесят пяць гадоў жыцця на сцэне амаль нязменны і трохі адстае ад сучасных уяўленняў пра сцэнічнае відовішча. Ды глядач яго любіць... захапляецца ім... акцёры адчуваюць асалоду ад паглыблення ў маляўнічыя і па-народнаму каларытныя ролі... Ну вось жа ў Англіі пры цяперашнім узроўні дэмакратыі захоўваецца каралеўскі двор і ўсе атрыбуты манархіі, якая царуе і не ўладарыць. А хай хто паспрабуе скасаваць інстытут каралеўскага рытуала, і англійская дэмакратыя страціць нешта надзвычай роднаснае і звыкла дарагое грамадзянам Вялікабрытаніі. Вядома, і гэтае параўнанне кульгае на абедзве нагі, ды пазбаўце афішу нашага тэатра "Паўлінкі", і штосьці вельмі істотнае ў абліччы Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы зменіцца непазнавальна.

Дырэктар Вашкевіч аднавіў і замацаваў спектакль у рэпертуары як нашу "візітную картку" і залог будучых пошукаў у беларускай тэматыцы...

І я прыгадваю арыгінальныя творы, што былі асветлены купалаўскай рампай "пры Вашкевічу". Тут і незабыўна ўзрушальныя "Радавыя", пасля "Вечар" А. Дударава, адноўленае "Раскіданае гняздо" і па-сучаснаму прачытаныя "Тутэйшыя" Я. Купалы. Выведзены на падмосткі камедыйныя персанажы "Мудрамера" М. Матукоўскага і такія знаёмыя нам па нашай паўсядзённасці героі "Жыцця Карыціна" А. Паповай. Зроблены па-мастацку ўдумлівы перагляд ранейшых уяўленняў пра трагедыю беларускай вёскі часоў прымусовай калектывізацыі ў драме "Страсці па Аўдзею" У. Бутрамеева, нечаканымі матывамі і каларытам узбагацілася "Сялянка" В. Дуніна-Марцінкевіча з музыкай М. Агінскага і С. Манюшкі ў "Ідыліі".

Ці варта ў такіх выпадках падкрэсліваць, што гэта робіцца "пры Вашкевічу", пытаюся я ў самога сябе. Тэатр — мастацтва калегіяльнае. У ім зліваюцца ў адно творчыя намаганні не толькі непасрэдных выканаўцаў аўтарскай і рэжысёрскай задумы. Захапляе, напрыклад, сцэнаграфія памянёных спектакляў. А гэта і творчая няўрымслівасць мастакоў Б. Герлавана і З. Марголіна, падтрыманая майстэрствам супрацоўнікаў тых цэхаў, якіх ніколі не бачыць глядач. Касцюмеры і бутафоры, грымёры і дэкаратары, асвятляльнікі і мантажоры музычна-гукавой партытуры спектакля — усё гэта людзі, якіх трэба аб'яднаць і заахвоціць...

Адна са старэйшых актрыс, на чыёй памяці перабывалі тут розныя дырэктары, сказала, што... Цытую: "Наш Вашкевіч не з тых, хто па-начальніцку ўладарна загадвае... патрабуе... прымушае... Ён падказвае. Абмяркоўвае разам з табой. Радзіць. І галоўнае, забяспечвае ўсім неабходным для поспеху спектакля". Я спытаў яго самога, наколькі надзейная такая форма кіравання калектывам, і вось яго адказ: "Вельмі надзейная! Бо радзіць — азначае падказваць людзям малавядомыя ці зусім раней ім незнаёмыя матывы паводзін і ўчынкаў".

Ці заўсёды да яго прыслухоўваюцца? Не, далёка не заўсёды. У творчым асяроддзі, бывае, спрэчку ператвараюць у зручны момант кінуць цагліну ў апанента, замест таго каб пакласці яе на рыштаванні агульнай справы — спектакля. Бывае!

Не зусім зручна і наўрад ці тактоўна звяртацца да дырэктара тэатра з пытаннем, якое мяне самога, газетнага рэцэнзента, хвалюе. Там, у закулісным свеце, здараюцца нябачныя для свету такія жудасныя духоўныя трагедыі! Бо артыст — гэта ж ненатольная прага грамадскага (глядацкага) поспеху. Яму нясцерпна балюча доўжыць дні і месяцы без тае ролі, ва ўвасабленне якой асабіста яму з залы падкінуць хоць на шэлег удзячнага прызнання. У купалаўскай трупе шэсцьдзесят акцёраў. Сапраўдных. Калі вы думаеце, быццам тэатр можа расчыніць дзверы ў жаданы для кожнай і кожнага з іх прыстанак поспеху, вы памыляецеся. І дзіву даяцеся, чаму вось той, заваяваўшы прызнанне амаль як кумір публікі, знікае з рэпертуару, а гэтая наогул перайшла на выпадковыя ролі другараднага плана...

— Ой, да чаго ж тое балюча і для мяне! — з непрыхаванай крыўдай на твары прызнаецца Іван Вашкевіч. — Сапраўды, заслона на сцэне — тая тканіна, за якой Гамлет або Паўлінка робяцца звычайным членам прафсаюза. І наадварот. Звычайны супрацоўнік, як толькі ён выбег на падмосткі ў прамень рампы, перастае быць звычайным — творца... мастак... камедыянт... спрытны прытворшчык... Ён павінен забыць аб тым, што дома ў яго хворыя бацькі або дзіця... што сам ён не паважае рэжысёра, які паставіў гэты спектакль... пераадольвае нават асабістую непрыязнасць да партнёра, з якім разыгрывае любоўную сцэну... І неяк так здараецца, што яму няма чаго рабіць у цяперашнім рэпертуары. У жаданай ролі яго не бачыць рэжысура. Ён хварэе і вымушаны на творчы прастой... Ды і розныя капрызы, сваркі, плёткі — колькі з-за іх здараецца непаразуменняў! Я суцяшаю тут, у гэтым кабінеце, горка заплаканых... раз'юшаных ад прыкрасці... Абяцаю нешта. Прыкідваем разам з рэжысурай, як зноў вывесці на сцэну ў вартай яго таленту ролі таго... гэтую...

Я не называю імёны купалаўцаў, якія згадваліся ў нашай размове з І. Вашкевічам, бо так можна і параніць творчую натуру, гатовую да новых пошукаў і адкрыццяў.

Я ведаю, што сам І. Вашкевіч пабываў у акцёрскай шкуры і на сабе зведаў і пакуты творчасці, і асалоду хвілін акцёрскага прасвятлення, калі роля табе падначальваецца ці не ў кожным уздыху, і шчырую падтрымку калег. Помню, у спектаклі 1965 года "Беласнежка і сем гномаў" у Акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа ён выступаў... Галоўным выканаўцам каралеўскіх жаданняў. Такая роля. Дасціпны і хітраваты быў той нібыта паслухмяны памагаты ў казачнага караля. "Галоўны" і на мезены палец не даваў нам падумаць, што ад сэрца служыць свайму суверэну. Сам сабе галава!

Ці не даводзіцца дырэктару Купалаўскага тэатра такім жа чынам выконваць чужыя і не менш "каралеўскія" жаданні... просьбы... прагу... хаценне, на якое няма цярпення? Як адміністрацыйная асоба, ён мае права і адмахнуцца ад якіх прэтэнзій ці прэм'ерскай маніі вялікасці. А па акцёрскаму свайму мінуламу?

— Чаму — мінуламу? — перапытвае І. Вашкевіч. — Я і дасюль адчуваю часам нейкі покліч, быццам гукае мяне сцэна... Таму — крый Божа! — каб "ад-мах-нуцца" або іранічна ўсміхнуцца... Не-не! Надоечы ў мяне быў такі, як вы сказалі, з прэм'ерскай маніяй. Казырыўся, нагаварыў — мех і кайстру. Я не надта і крыўдую на яго. Ну, вядома, мухі ў носе, аднак... Ён жа, бывае, у адно імгненне... Але, як Моцарт! Помніце, кампазітар аднакроць у адно імгненне мысленна ўявіў... "убачыў"... сімфонію ва ўсёй яе мастацкай завершанасці яшчэ перад тым, як яна відавочна абазначылася на нотнай партытуры... Большасць яго партнёраў яшчэ ў "застольным перыядзе"... тэксту не ведаюць на памяць... А ён — наш прэм'ер — ужо зажыў у вобразе.

Слухаючы Вашкевічаў гімн у гонар акцёра, я заўважаю: "А вы — паэт..."

Перажытае ў маладыя гады не выпадкова называюць радзімай душы чалавека. Мабыць, і характар Івана Вашкевіча з яго ўважлівым стаўленнем да людзей тэатральнага асяроддзя мае свае вытокі яшчэ ў ваенным дзяцінстве. Вайна абпаліла яго і назаўсёды засталася з ім адбіткам дзіцячых ўражанняў — ад таго, як гергеталі чужынцы ў зялёных мундзірах, ад стракатання кулямётаў, ад забітых аднавяскоўцаў, родных і блізкіх, якіх і ён, малеча, хаваў у сырой зямлі ля ваколіц Ганалеса, ад сірочага хлеба і ад самоты пад начным зорным небам. І яшчэ зведаў ён ратавальнае цяпло чалавечай рукі, што бы ненаўмысна кладзецца табе на плячо. І адчуў ціхую моц голасу таго, хто не звоніць у атопак, а сапраўды зычыць табе дужасці: "Ах, Ванёчак, няма чаго нос вешаць на квінту! Даў Бог стан — дасць і жупан. Ды і сам ты не зломак, яшчэ дзеду Сяргейчыку бараду на кулак накруціш..."

Яны спрыялі маладому артысту Івану Вашкевічу, піянеры Коласаўскага тэатра, — Аляксандр Ільінскі, Цімох Сяргейчык, Анатоль Трус, Алена Радзялоўская. І калі яго ўводзілі ў камедыю "Несцерка" на ролю "самога" Сяргейчыка — Шкаляра, то і дзівіліся, і ўхвалялі ягоны малюнак ролі. А той Шкаляр Самахвальскі выглядаў не такім ужо і тупым дурнем з балбатлівым языком. Здавалася, нібы пан Самахвальскі хітруе і ўпотай разам з Несцеркам хоча высмеяць кожнага хвалько, асабліва калі той хвалько прэтэндуе на прызнанне, на пасаду, на прывілеі.

Калі можна сказаць, што дырэктар добра выконвае свае службовыя абавязкі? Аншлаг "Усе білеты прададзены!" цяпер наўрад ці паказчык таго, хоць ён вельмі пажаданы. Тады — што? Аказваецца, галоўнае імкненне І. Вашкевіча — забяспечыць поспех творчай работы вось гэтай — сённяшняй — супольнасці купалаўцаў. І ён, маючы вялікі вопыт, усё вучыцца і вучыцца кожную сітуацыю ў закулісным свеце і вакол тэатра ацэньваць як са сваіх грамадзянскіх і службовых пазіцый, так адначасова і з пазіцый сваіх апанентаў-спрачальнікаў.

Для гэтага патрэбны яшчэ і вялікія грошы, матэрыяльнае забеспячэнне. Надта патрэбны. Можа, не зусім памыляюцца французы, сцвярджаючы з апломбам, што грошы — гэта душа вайны, кахання і сцэны. І сцэны! Як у сучасных эканамічных варунках здабывае іх дырэктар Купалаўскага? Ведаю, што ён здолеў сабраць нешта накшталт "клуба мецэнатаў" і пракладвае надзейныя сцежкі ва ўстановы...

— Гэта, як той казаў, сакрэт фірмы, — смяецца Іван Іванавіч, і я здагадаўся, што "пра гэта" ён нічога мне не паведаміць. Скрытнасць бывае самай надзейнай вартай нашага арыгінальнага і смелага замеру. Не лічыцца з тым я не маю права. Таму развітваюся з гаспадаром дырэктарскага кабінета, паклаўшы ў кішэню кантрамарку на новы спектакль.

**Барыс БУР'ЯН.**

## *ЛЯЛЬКІ ЯПОНІІ*




**У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстава "Лялькі Японії". Для беларускіх гледачоў гэта магчымасць пазнаёміцца з культурай далёкай краіны, з яе багатымі традыцыямі вырабу лялек.**

**Тут прадстаўлены фігуркі з дрэва, паперы, тканіны ці гліны. Кожная — унікальны твор мастацтва, дзе выкарыстаны багатая тэхніка і найтанчэйшая колеравая гама ў адзенні, у якое апрануты японскія лялькі. Творы гэтыя — высокія ўзоры мастацкай творчасці, таму лялькі не прызначаны для гульні дзяцей. Яны сталі ў Японіі відам мастацтва, групуюцца згодна з асобымі датамі японскага календара, дызайну і асаблівасцяў вырабу.**

**Экспазіцыя пасля Мінска пераедзе ў Гомель.**

**НА ЗДЫМКАХ: з японскай выставы.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**



## ВЕЧАРЫНА НАДЗЕІ АРТЫМОВІЧ

**"Сустрэчы культур" — пад такой агульнай назвай адбываюцца творчыя вечарыны пісьменнікаў, выставы мастакоў, тэатральныя прадстаўленні калектываў з Украіны, Беларусі, Чэхіі ў польскім горадзе Любліне. Ініцыятарам і арганізатарам гэтых сустрэч з'яўляецца асяродак "Гарадская брама — тэатр НН", які нядаўна гасцінна вітаў беларускую паэтку з Бельска Надзею Артымовіч.**

**Імпрэзу распачаў крытык Сяргей Кавалёў кароткім дакладам пра творчасць Н. Артымовіч у кантэксце сучаснай беларускай літаратуры. Прагучалі некаторыя творы паэткі і па-польску ў выкананні яшчэ аднаго ўдзельніка аўтарскага вечара, польскага паэта і перакладчыка Тадэвуша Карабовіча.**

**Аўдыторыя прыхільна і з зацікаўленасцю прымала паэзію Надзеі Артымовіч, моўнага бар'ера амаль не адчувалася. Прысутныя імкнуліся да размовы з паэткай, задавалі пытанні, выказвалі свае ўражанні і меркаванні.**



# «БРАМУ СКАРБАЎ СВАІХ АДЧЫНЯЮ...»

Максіму Гарэцкаму не давялося належным чынам быць упісаным у беларускі літаратурны працэс пры жыцці. У апошнім апавяданні пісьменніка "Скарбы жыцця" ёсць словы: "Браму скарбаў сваіх адчыняю..." На вялікі жаль, толькі праз паўстагоддзя пасля смерці М. Гарэцкага стала магчымым адкрыць людзям скарбы яго таленту.

Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры праводзіць вялікую работу па прапагандзе жыццёвага і творчага шляху аднаго з заснавальнікаў беларускай мастацкай прозы, пачынальніка беларускага літаратуразнаўства, літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі, мовазнаўства, збіральніка і прапагандыста вуснай народнай творчасці Максіма Гарэцкага. Аб гэтым сведчыць экспазіцыя музея "Покліч", у якой увасобіўся трагічны лёс пісьменніка, філіял у вёсцы Малая Багацькаўка, на радзіме М. Гарэцкага, перасоўная выстава "Жыццёвы і творчы шлях М. Гарэцкага", штогадовыя літаратурныя чытанні.

А 8 красавіка ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры сабраліся вучні і настаўнікі школ Мінскага раёна, каб прыняць удзел у Першых школьных літаратурных чытаннях, прысвечаных М. Гарэцкаму, — "Браму скарбаў сваіх адчыняю..."

Словы гэтыя вельмі пасуюць да зместу мерапрыемства, таму што М. Гарэцкі ўсім сваім жыццём, сваёй творчасцю адчыніў браму скарбаў у думках і сэрцах вучняў. А калі я пачула іх выступленні, то зразумела, што не ўсё страчана ў нашым грамадстве і, самае галоўнае, не страчана надзея на падрастаючае пакаленне, вера ў нацыянальнае адраджэнне.

З прывітальным словам да ўдзельнікаў чытанняў звярнуўся акадэмік Акадэміі навук Беларусі, пляменнік Максіма Гарэцкага Радзім Гарэцкі. Ён падараваў выступоўцам кнігі пісьменніка. Потым выступіў член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі Міхась Мушынскі, чые навуковыя працы па гарэцказнаўству вядомыя не толькі на Беларусі.

Больш за 35 школ Мінскага раёна прынялі ўдзел у чытаннях. Падрыхтавана 40 рэфератаў. 10 лепшых атрымалі магчымасць быць зачытанымі на канферэнцыі. А даклад вучаніцы 11 класа Бараўлянскай сярэдняй школы № 2 Таццяны Маслоўскай "Лёс бацькаўшчыны і яе сыноў у аповесці М. Гарэцкага "Ціхая плынь" вылучаны на Шостыя гарэцкія чытанні, што пройдуць з 28 па 30 траўня ў Горках.

У падсумаванні, прынятым на чытаннях, было вырашана пашыраць і працягваць справу школьных чытанняў. У верасні будзе распачата работа па падрыхтоўцы чытанняў па творчасці Уладзіміра Караткевіча, якія мяркуецца правесці ў лістападзе, да дня нараджэння пісьменніка.

Напрыканцы Першых школьных гарэцкіх чытанняў Эльвіра Ярчак, выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Бараўлянскай сярэдняй школы №2, прачытала свой верш, прысвечаны М. Гарэцкаму (дарэчы, гэта яна з'яўляецца кіраўніком даклада, вылучанага на Шостыя гарэцкія чытанні).

**Эльвіра ЯРЧАК**

*Максіму ГАРЭЦКАМУ*

**Прынясіце на стол чысты белы абрус —
Пачастуем гасцей медавухай і квасам
І ўспомнім цябе, наш Максім Беларус,
І ўспомнім жыццё, што згарэла да часу.**

**Ці згарэла! А можа, каметай ляціць,
Асвятляючы цемру касмічнай прасторы,
І над ціхаю плынню падоўгу вісіць,
Прадвяшчаючы радасць ці гора!**

**Ціхай плынню нам бачыцца сціплы
наш край,
Ціхай плынню — але ж не балотам!
Шчыра верым у светлы, у будучы рай,
Бо навошта ж ахвяры, навошта!!**

**І Малая Багацькаўка, Менск і Альбуць
Падарылі нам волатаў духу.
Дык за што ж, Беларусь, тваіх дзетак
вядуць
Паміраці заўчасна са скрухай!**

**Ці ж яны пасягнулі на нечы прастол! —
Баранілі свой край, сваю мову.
І шапталі асмяглыя вусны: за што!..
І нашчадкі схілялі галовы.**

**Верце, Божае слова не знішчыць ніхто,
Бо яно новай рунню праб'ецца.
А лухта як была, так і будзе лухтой,
Толькі "Скарбы жыцця" грэюць сэрца.**

**Дык сцяліце ж на стол самы
белы абрус —
Пачастуем гасцей медавухай і квасам.
І ўспомнім цябе, наш Максім Беларус,
І ўсіх тых, што сканалі дачасна.**

"...Я жыць хачу вольным жыццём — жыццём радасці, добрага вясёлага смеху і ўсяго таго, што побач з другімі творыць гармонію жыцця. Я крэпка, усімі сіламі жадаю яго!.." Гэты запавет пісьменніка ўдзельнікі Гарэцкіх чытанняў, маю вялікую надзею, будуць несці праз усё сваё жыццё і зробяць усё неабходнае для таго, каб жаданне Максіма Гарэцкага, яго мара для беларусаў "гармоніі жыцця" здзейснілася.

**Зінаіда КУЧАР.**

**НА ЗДЫМКУ: Гарэцкія чытанні ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.**

# БЕЛАРУСЬ З КОСМАСУ



Як выглядае з космасу Беларусь? Аказваецца, каб гэта ўбачыць, зусім не абавязкова праходзіць строгі адбор і доўгую падрыхтоўку ў атрадзе касманаўтаў. Атрымаць уяўленне пра гэта можна на выставе, якая цяпер праходзіць у Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Удвая цікавейшая яна таму, што ў ліку аўтараў людзі, якія на свае вочы бачылі тое, што малююць — касманаўты Аляксей Ляонаў і Уладзімір Джанібекаў. Але не менш цікавыя работы тых, хто космас можа толькі ўявіць, і фарбы, якімі яны малююць гэты невядомы свет, ім падказвае ўласная фантазія. Гэта Георгій Паплаўскі і Андрэй Сакалоў. Несумненна, цікавыя скульптурныя партрэты нашых касманаўтаў, створаныя скульптарам Іванам Міско.

Цікава, што тэма космасу ў жывапісе ў нас і ў Амерыцы вырашалася зусім па-рознаму. Па-першае, у Савецкім Саюзе гэтая тэма вельмі недружалюбна прымалася афіцыйным Саюзам мастакоў. А па-другое, усё, што звязана з космасам, у нашай краіне было традыцыйна засакрэчана, і трапіць на натуру было невырашальнай праблемай. У ЗША пайшлі па іншаму шляху: калі стварылі НАСА, пры ім адразу заклалі аддзел культуры, выдзелілі на гэта грошы і заключылі дагаворы з сарака вядучымі амерыканскімі мастакамі. Тэма космасу ў амерыканскім жывапісе з самага пачатку развівалася паралельна з гісторыяй амерыканскай касманаўтыкі. Была ў рэшце рэшт створана такая група мастакоў і ў нас, і адным з тых, хто



працаваў над тэмай космасу з моманту запуску першага спадарожніка ў 1957 годзе, быў мастак Андрэй Сакалоў.

— Я вырашыў займацца гэтым яшчэ і таму, што сама тэма асваення космасу — вечная, яна будзе існаваць столькі, колькі чалавек будзе імкнуцца да зорак, а гэты працэс бясконцы. Ды і ўвогуле ў чалавецтва ніколі не было нічога больш дзёрзкага, чым мара пра зоркі. Для мяне асабіста касманаўтыка бязмежна цікавая, і калі я малюю, не магу сказаць, што для мяне больш цікава — калі я карціну пішу ці калі я яе прыдумваю. Многія аўтаматы і апараты для мяне ўжо добрыя старыя знаёмыя, а самы любімы з іх — месяцаход.

— А канструктары не карыстаюцца ідэямі мастакоў?

— Многія з іх гавораць, што мы часта бываем дакладнымі.

— Вам самому не хацелася паляцець у космас?

— Вельмі хацелася, але я рэаліст. Першы атрад касманаўтаў адбіраўся з трох тысяч лётчыкаў-знішчальнікаў, а яны ж самі па сабе былі адборнымі хлопцамі. А па-другое, усе яны былі невялікага росту... — засмяяўся двухметровы Андрэй Сакалоў...

— А як ставяцца да вашых карцін касманаўты, напрыклад, Аляксей Ляонаў, які і сам малюе космас?

— Пачнем з таго, што мы сааўтары з 1965 года, разам выпусцілі пяць альбомаў, нашы сумесныя работы ёсць і на гэтай выставе. Ляонаў — непрафесійны мастак, але ён вельмі таленавіты чалавек і многага дасягнуў у жывапісе. А другі малюючы касманаўт — Уладзімір Джанібекаў. У сваіх работах ён спрабуе па-філасофску асэнсаваць тэму космасу.

— Як вы ставіцеся да таго незайздроснага становішча, у якім сёння апынулася касманаўтыка?

— Гэта вельмі сумна, таму што такое становішча закранула не толькі касманаўтыку, але і навуку, культуру, адукацыю. І наша пілатуемая касманаўтыка сёння існуе пастолькі, паколькі яна ўяўляе цікавасць для амерыканцаў, і яны яе субсідзіруюць. Станцыя "Альфа", якая будзе будавацца, не руска-амерыканская, гэта амерыканскі праект, у якім удзельнічаюць сямнаццаць краін, у тым ліку і Расія... Аднак я цвёрда веру, што залаты век айчыннай касманаўтыкі яшчэ наперадзе і нас чакаюць новыя імёны не толькі рускіх, але і беларускіх касманаўтаў.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: І. МІСКО. "Касманаўт Уладзімір КАВАЛЁНАК"; Г. ПАПЛАЎСКІ. "Далёкая касмічная сувязь-1"; А. САКАЛОЎ. "Касмічная раніца Беларусі".**



**Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 636. Падпісана да друку 29.4.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.